ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№7 (52) ліпень 2015 год

CATHOLICNEWS.BY

# Грэка-католікі ўшанавалі памяць полацкіх пакутнікаў



Чытайце на стар. 7



## Быстрыца адсвяткавала 625-годдзе свайго існавання

Чытайце на стар. 10

## Ля алтара Беларусі



Чытайце на стар. 2

## Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк блаславіў абаронцаў Бацькаўшчыны

Стар. 8








# Ля алтара Беларусі

**Двухдзённыя ўрачыстасці ў Будславе сёлета праходзілі 3-4 ліпеня. Людзі пачалі збірацца ўжо зранку, адчувалася, што набліжаецца свята. У ваколіцах мястэчка чуюцца спевы пілігрымаў, пад'язджаюць аўтобусы і машыны. У цягніку будслаўскага напрамку моладзь едзе з там-тамамі, жанчыны старэйшага пакалення ўсю дарогу моляцца на ружанцы. Вялікая група людзей "высыпаецца" з цягніка і ідзе да святыні, у якой знаходзіцца цудадзейны абраз Маці Божай.**

**Ірына Грэйцы**, *тэкст;* **кс. Віктар Місевіч**, *фота*

## Мнагавекавыя цуды

Пра цуд, які быў зафіксаваны ўжо ў 1617 годзе, расказваецца ў кнізе «Задыяк нябесны на зямлі» айца Элеўтэра Зеляевіча. 5-гадовы хлопчык Язафат Тышкевіч, які аслеп на абодва вокі, пачаў бачыць. Бацькі хлопчыка з вялікай надзеяй і верай у дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі прывялі яго ў Будслаўскі касцёл. Як толькі ён пераступіў парог святыні, зрок вярнуўся. Пазней Язафат стаў вядомым айцом-кармелітам. І зараз, як і некалькі соцень гадоў таму, Маці Божая аздараўляе ўсіх, хто просіць у яе дапамогі.

З вакзала іду разам са спадарыняй Рэгінай, якая сведчыць пра свае аздараўленні. Дзесьці чатыры гады таму, ідучы ў пілігрымцы, жанчына малілася, каб язва ў носе прайшла. І цуд адбыўся, хваробы не стала. Пазней яе мучаў боль жывата, аналізы былі вельмі кепскія, але пасля малітвы ўсё знікла.

## Адметнасць сёлетніх пілігрымак

На тэрыторыі касцёла ідзе актыўная падрыхтоўка: упрыгожваюць алтар на дварэ, расстаўляюць намёты. Бліжэй да абеду прыходзяць першыя пілігрымкі. Усяго пешых паломнікаў прыйшло амаль тры тысячы: з Віцебскай дыяцэзіі – 721 чалавек, з Гродзенскай – 395, з Пінскай – 321, з Мінска-Магілёўскай – 1460.

У гэтым годзе адметным стала тое, што ўпершыню з Ліды ў Будслаў прыйшла пешая пілігрымка. Упершыню ў санктуарый прыйшла пілігрымка сем'яў. Першая і самая доўгая пілігрымка ў Будслаў была з Брэста. Пілігрымы ішлі 16 дзён і пераадолелі адлегласць у 537 км.

Ірына Губская, якая ішла ў гэтай пілігрымцы, дзеліцца ўражаннямі: "У мяне быў досвед розных пілігрымак. І, прайшоўшы вось гэтую доўгую пілігрымку, я разумею: сама пілігрымка пачынаецца толькі з 5-6-га дня. Пераадолеўшы розныя цяжкасці, ты ўжо адчуваеш сябе сям'ёй, адчуваеш, што жывеш вандроўкай. Я вельмі ўдзячна Богу, што была такая магчымасць прайсці гэтую дарогу. І, увогуле, столькі любові, колькі я адчула за гэтыя 16 дзён у адным месцы, я не адчувала ніколі".

Былі сёлета тры юбілейныя пілігрымкі: з Мінска, з Нарачы і з Браслава.

На ўваходзе ў святыню паломнікаў вітае кусташ Нацыянальнага санктуарыя а. Віктар Бурлака. Пасля пілігрымы ўваходзяць у касцёл, становяцца на калені перад Маці Божай, складаюць падзякі і просьбы.

## Са шлюбу да Марыі

Апаноўвае радасць, калі гляджу на маладых сужэнцаў, якія адразу пасля шлюбу прайшлі доўгі шлях да санктуарыя, каб падзякаваць Богу адно за аднаго. Эдуард і Вераніка са Смаргоні ў вясельным убранні ўвайшлі ў Будслаў. Маладая расказвае: "Мы знаёмыя паўтары года. За гэты час мы разам працавалі ў салезіянскім араторыі як аніматары, займаліся з дзецьмі, хадзілі ў пілігрымкі, ездзілі на розныя мерапрыемствы. Пазнаёміліся выпадкова. Спачатку сталі сапраўднымі сябрамі, а пазней, пасля пілігрымкі, пачалі сустракацца. Зараз мы прыйшлі да Маці Будслаўскай, каб падзякаваць ёй за дар чысціні і адвагі ў нашых адносінах".

Тамара і Павел Мінюткі таксама сведчаць: "Нягледзячы на тое, што за апошні месяц мы перажылі шмат падзей і атрымалі шмат уражанняў (шлюб, вельмі насычанае падарожжа ў Італію), Будслаў ні на кроплю не страціў для нас свайго значэння і прыцягальнай сілы. Маглі б мы сказаць "Нам цяпер не да пілігрымак, трэба дом будаваць", але чаргова раз сядзім перад святыняй са "спаленымі" насамі. Бо мы аднадумцы ў наступным: і сям'ю, і дом мы хочам будаваць з Богам".

## Пілігрымы ад першага году жыцця

Увечары Імшу для пілігрымаў цэлебраваў біскуп Юзаф Станеўскі. У сваім казанні ён назваў Будслаўскі санктуарый алтаром Беларусі. Праходзячы па прыкасцельнай тэрыторыі, заўважаю шмат жанчын з маленькімі дзецьмі, якія толькі пачынаюць свой жыццёвы шлях і ўжо пілігрымуюць да Маці Божай. Антаніна Філіпёнак з сынам Леанідам, катораму толькі 7 месяцаў, распавядае: "Мы прыйшлі сюды ўчатырох. Старэйшым дзеткам – 10 і 12 гадоў. Гэта першая наша пілігрымка. На шляху не было ніякіх цяжкасцей, людзі сустракалі вельмі добрыя. Калі Бог дасць, абавязкова пойдзем і ў наступным годзе".

Алёна Шаршунс ужо дзясяты раз прыходзіць да Маці Божай. З сям'ёй – двойчы. Таму ў маленькага Мацвея, якому 1 год і 2 месяцы, ужо другая пілігрымка ў жыцці: "Мы сюды прыходзім, каб падзякаваць за нашу сям'ю і сыночка, бо лічым яго падарункам ад Маці Божай Будслаўскай, каб прасіць аб патрэбных ласках".

## За год біскупаў паболела ўдвая

Апоўначы ўся прыкасцельная тэрыторыя асвятляецца свечкамі. Перад Эўхарыстыяй, якую ўзначаліў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, адбылася працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай.

Усю ноч тут не зачыняюцца дзверы касцёла, не змяншаецца плынь людзей, якія з просьбамі і падзякамі ідуць да Марыі. Для моладзі ноччу таксама была зладжана праграма.

4 ліпеня ранішняя Імша, якую цэлебраваў біскуп Алег Буткевіч, прайшла традыцыйна на польскай мове.

Варта адзначыць, што сёлета ў Будславе прысутнічалі ўсе біскупы краіны. За апошні год іх колькасць у Беларусі павялічылася ў два разы. Біскуп Кандрусевіч адзначыў, што "такога не было ні ў адной краіне свету".

З асаблівай радасцю ўсе віталі ў санктуарыі новага біскупа Аляксандра Яшэўскага SDB, біскупскае пасвячэнне якога адбылося 27 чэрвеня ў Мінску. Папа Францішак прызначыў яго дапаможным біскупам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. З гэтай нагоды вернікі і духоўныя асобы маліліся аб плённым служэнні маладога іерарха.

Святой Імшой, якую ўзначаліў Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці, завяршыліся ўрачыстасці ў Будславе, у якіх удзельнічалі дзясяткі тысяч вернікаў з усёй Беларусі, а таксама з замежжа: з Польшчы, Расіі, краінаў Прыбалтыкі, Украіны.


Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч частуе пілігрымаў клубніцамі ў Будславе

# Папа ў Лацінскай Амерыцы

**У пачатку ліпеня Святы Айцец здзейсніў дзявятае апостальскае падарожжа за межы Італіі.**

■ **а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*



6-13 ліпеня 2015 г. ён наведаў тры лацінаамерыканскія краіны: Эквадор, Балівію і Парагвай. Кардынал Дзяржсакратар П'етра Паралін у інтэрв'ю Ватыканскаму тэлевізійнаму цэнтру звярнуў увагу, што для Пантыфіка Лацінская Амерыка – гэта кантынент надзеі, дзе трэба чакаць новыя мадэлі развіцця, якія ўзнікнуць са спалучэння хрысціянскай традыцыі, грамадзянскага і тэхнічнага прагрэсу.

Гэты пераважна каталіцкі паводле рэлігійнага складу рэгіён вызначаецца сваёй шматнацыянальнасцю і шматмоўнасцю, што спалучаецца са складаным эканамічным і сацыяльным становішчам насельніцтва. Каталіцкі Касцёл, да якога належыць большасць насельніцтва ў гэтых краінах, мае значны патэнцыял для ўплыву на сітуацыю, таму візіт Святога Айца меў важнае значэнне не толькі з душпастырскага пункту гледжання. Прэзідэнт Эквадора Рафаэль Карэа таксама падкрэсліў ролю Касцёла ў клопаце пра самых бедных, спасылаючыся на постаць арцыбіскупа Оскара Арнульфа Рамэра, залічанага нядаўна да ліку блаславёных, а прэс-сакратар эквадорскага епіскапату кс. Давід дэ-ла-Торэ адзначыў, што дзякуючы Святому Айцу Касцёл зноў апынуўся ў цэнтры грамадскага жыцця. Тэма беднасці і сацыяльнай справядлівасці вельмі часта гучала на працягу гэтага тыдня.

У Эквадоры Папа Францішак звярнуў увагу, што *"сёння мы можам знайсці ў Евангеллі ключы, якія дазваляюць адказаць на бягучыя выклікі, цаніць адрозненні, развіваючы дыялог і ўдзел без выключэнняў, каб дасягненні ў галіне прагрэсу і развіцця, што назіраюцца і ўмацоўваюцца, забяспечылі лепшую будучыню для ўсіх, звяртаючы ўвагу на нашых самых слабых братоў і найбольш уразлівыя меншасці, каторыя з'яўляюцца доўгам, які да гэтага часу мае ўся Лацінская Амерыка"*, – паведамляе Беларуская служба Ватыканскага радыё.

*"Наша вера заўсёды рэвалюцыйная"*, – сказаў Святы Айцец, нагадаўшы, што мы жывём у свеце, параненым войнамі і гвалтам, і перасцярог ад павярхоўнага мыслення, нібы пазлы і нянавісць адносяцца толькі да напружанасці паміж краінамі і сацыяльнымі групамі. На самай справе, падкрэсліў ён, гэта з'яўляецца праявай шырока распаўсюджанага індывідуалізму.

Францішак адзначыў, што евангелізацыя можа і павінна быць інструментам адзінства памкненняў, адчувальнасці, чаканняў і нават нейкіх утопій. Ён указаў на неабходнасць барацьбы за інтэграцыю на ўсіх узроўнях, пазбягаючы эгаізму, спрыяючы камунікацыі і дыялогу і павышаючы якасць супрацоўніцтва. Папа перасцярог ад "мірской духоўнасці", якая палягае на бясплодным імкненні да ўлады, прэстыжу, задавальнення або эканамічнай бяспекі і з'яўляецца перашкодай на шляху да адзінства, правакуе войны паміж людзьмі.

Падобныя акцэнты Папа Францішак расставіў і падчас свайго візіту ў Балівію, падкрэсліўшы, што гэтая зямля блаславёная ў разнастайнасці народаў, якія жывуць на ёй. І гэта з'яўляецца пастаянным заклікам да ўзаемнай павагі і дыялогу. Ён нагадаў, што ў Балівіі кастыльская мова суіснуе сёння з 36 першаснымі дыялектамі. *"Я прыбыў у якасці госця і пілігрыма, каб умацаваць веру тых, хто верыць ва ўваскрослага Хрыста. Каб мы ўсе, хто верыць у Яго, будучы пілігрымамі ў гэтым жыцці, заставаліся сведкамі Яго любові, зачынам лепшага свету, і каб мы супрацоўнічалі ў стварэнні грамадства больш справядлівага і салідарнага"*, – запэўніў Папа.

На думку Пантыфіка, Касцёл заснаваны на прыярытэтным і евангельскім імкненні да дапамогі бедным. *"Братэрская любоў, якая з'яўляецца адлюстраваннем новай запаведзі Езуса, выяўляецца ў праграмах, ініцыятывах і ўстановах, што імкнуцца да інтэгральнай падтрымкі асобы, а таксама клопату і абароны слабых"*, – адзначыў ён і дадаў, што *"сёння, калі так часта забываюць або блытаюць фундаментальныя каштоўнасці, асаблівай увагі з боку тых, хто нясе адказнасць за агульнае дабро, заслугоўвае сям'я"*.

Пантыфік выказаў надзею на тое, што Балівія зможа стварыць новы культурны сінтэз на падставе інтэграцыі і адзінства, якое палягае на гармоніі разнастайнасці. На думку Францішка, небяспечна прызвычайвацца да асяроддзя няроўнасці, бо росквіт, які мае на ўвазе толькі матэрыяльнае ўзбагачэнне, заканчваецца эгаізмам і абаронай выключна асабістых інтарэсаў, не думаючы пра іншых. Росквіт, які разумеецца такім чынам, вядзе да канфліктаў і сацыяльнай дэзінтэграцыі, нараджае зло карупцыі.

Папа звярнуў увагу на неабходнасць павагі да прынцыпаў свабоды, якая заўсёды застаецца найлепшым асяроддзем для таго, каб мысляры, грамадскія аб'яднанні, сродкі масавай камунікацый выконвалі сваю функцыю з запалам і крэатыўнасцю ў служэнні супольнаму дабру. Святы Айцец нагадаў, што хрысціянства адыгрывае важную ролю ў фармаванні тоеснасці народа. *"Нашай задачай будзе стымуляванне і падтрымка, каб нараджалася духоўнасць і хрысціянская актыўнасць у грамадскіх ініцыятывах"*, – сказаў Францішак.

Пантыфік заклікаў да абароны сям'і ад пагроз гвалту, алкагалізму, мачызму, наркаманіі, беспрацоўя, адсутнасці грамадскай бяспекі, адмовы ад старых, бяздоглядных дзяцей, ідэалагічнай каланізацыі. Ён указаў на праблему іміграцыі і неабходнасці навядзення мастоў замест сцен.

Будучы ў Парагваі, Святы Айцец нагадаў, што на працягу ўсёй сваёй гісторыі краіна перажыла вялікія пакуты вайны, братазабойчых змаганняў, недахопу свабоды і зневажання правоў чалавека. Папа заклікаў: *"Ніколі больш братазабойчых войнаў! Заўсёды будуйма мір!"*

З вялікімі "эмоцыямі і захапленнем" Святы Айцец падкрэсліў вызваленчую ролю парагвайскіх жанчын у гэтых драматычных перыядах гісторыі. Ён адзначыў, што нацыя, якая забывае сваё мінулае, сваю гісторыю і свае карані, не мае будучыні. "Памяць, якая трывала ўкаранілася ў справядлівасць, далёкая ад пачуццяў помсты і нянавісці, ператварае мінулае ў крыніцу натхнення для пабудовы гарманічнай будучыні, робячы нас людзьмі, што ўсвядомілі трагедыю і бессэнсоўнасць вайны", – сказаў Папа.

*"На першым месцы ў эканоміцы, прадпрымальніцтве і палітыцы стаіць чалавек і асяроддзе, у якім ён жыве"*, – заўважыў Папа. Ён перасцярог ад ідалапаклончай эканамічнай мадэлі, якая патрабуе прынясення ў ахвяру чалавечых жыццяў на алтары грошай і прыбытку.

Наведаныя Святым Айцом краіны і тыя праблемы, на якія звярталася ўвага падчас паездкі, скіроўваюць нашыя погляды на існасць усяго чалавецтва ў гэтым свеце. Як грамадства гэтых лацінаамерыканскіх краінаў, так і ўсё чалавецтва ўяўляе сабою шматмоўную, шматэтнічную, шматрэлігійную супольнасць людзей, большасць якіх знаходзіцца ў складаным стане. Гэта ёсць вобраз усяго свету, і праблемы, што стаяць перад Эквадорам, Парагваем ці Балівіяй, стаяць перад усёй планетай. Бог чакае ад нас яднання ў братэрстве і ўзаемнай дапамозе. Усім нам неабходна зразумець вялікую праўду, пра якую польскі паэт кс. Ян Твардоўскі пісаў: "Няроўныя патрабуюць адно аднаго, ім лягчэй зразумець, што кожны – для ўсіх, і прачытваць цэласць".

## Католические монахини в Сирии нарушили обет молчания, чтобы привлечь внимание к ситуации в стране

**Сирийские католические монахини-траппистки в некотором смысле нарушили обет молчания, который дают члены этого ордена. Они опубликовали обращение к мировой общественности, в котором призвали непредвзято взглянуть на ситуацию в Сирии.**

Как сообщает «Osservatore Romano» со ссылкой на сайт Ora pro Siria, тишина небольшой обители трапписток, расположенной недалеко от границы с Ливаном, в последнее время постоянно нарушается грохотом взрывов.

Авторы обращения призывают мировую общественность осознать, что за конфликтом в Сирии стоят политические интересы и манипуляции. Чтобы составить объективное мнение о конфликте, нужно выслушать все стороны, уверены монахини.

Траппистки осуждают дезинформацию и «насилие СМИ», обслуживающих интересы различных сторон конфликта. Но главное, к чему они призывают, – это отмена международных санкций, жертвами которых являются в Сирии самые слабые и незащищенные, а вовсе не власть придержащие.

Сирийцы лишены сегодня самого необходимого: еды, медикаментов. Все это продается втридорога, что влечет за собой преступления, контрабанду, коррупцию и спекуляцию.

Как и в Ираке, международное эмбарго лишь подливает масло в огонь братоубийственной войны, пишут монахини. По приблизительным оценкам, за годы конфликта в Сирии было убито 220 000 человек, около миллиона было ранено и искалечено, более 10 млн. сирийцев стали беженцами.

В конце своего обращения члены траппистской общины призывают международную общественность не предаваться отчаянию при виде страданий сирийского народа, не думать, что создавшаяся ситуация неразрешима, а напротив – искать пути установления мира в многострадальной арабской стране.

Члены Ордена траппистов (официально он именуется Орденом цистерцианцев строгого соблюдения) обязаны молиться 11 часов в сутки, трудиться (первоначально в поле), соблюдать молчание, прерываемое только для молитв, песнопений и по другим уважительным причинам, и строгий пост, включающий полный запрет на мясо, рыбу и яйца и облегчаемый только для больных.

*blagovest-info.ru, newsru.com*

# Пяць фактаў пра біскупа Аляксандра Яшэўскага SDB



**Як ужо, напэўна, вядома нашым чытачам, 9 чэрвеня Папа Францішак прызначыў дапаможным біскупам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі прэзбітара Аляксандра Яшэўскага SDB. Біскупскія пасвячэнні адбыліся 27 чэрвеня ў архікатэдральным касцёле ў Мінску. Новаму біскупу нададзена Пантыфікам тытулярная біскупская кафедра Furnos maior. Ён накіраваны на служэнне ў Магілёўскую частку Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.**

Галоўным пасвячальным біскупам падчас урачыстасці быў Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдзіё Гуджэроці, біскупамі-асістэнтамі – Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч і біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.

"Каталіцкі Веснік" прапануе сваім чытачам 5 самых цікавых фактаў з жыцця маладога біскупа Аляксандра Яшэўскага SDB.

### 1. Грунтоўная адукацыя

Біскуп Яшэўскі SDB на дарозе да святарства і манаскага жыцця скончыў некалькі навучальных устаноў. У 1991 годзе ён паступіў у Салезіянскую духоўную семінарыю ў г. Чэрвіньск-над-Віслай (Польшча). Вывучаў філасофію ў Салезіянскай духоўнай семінарыі ў г. Лодзь (Польшча) і тэалогію ў Папскім Салезіянскім універсітэце ў Рыме. Там жа ён атрымаў ступень ліцэнцыята дагматычнай тэалогіі. Валоданне такой ступенню азначае, што яе ўладальнік мае права выкладаць у каталіцкіх ВНУ.

### 2. Багаты кар'ерны досвед

Нягледзячы на малады ўзрост, яшчэ будучы святаром, біскуп Аляксандр паспеў папрацаваць на розных пляцоўках, значная колькасць якіх – гэта невялікія вясковыя парафіі: Жодзішкі, Баруны, Жупраны. Манаскае пакліканне да ордэна салезіянаў стала прычынай таго, што будучы іерарх нёс адказную паслугу ў межах ордэна. Гэта пасада сакратара спецыяльнай акругі Салезіянскай Кангрэгацыі (Усходнееўрапейскай) з сядзібай у Маскве, пасада дырэктара салезіянскай супольнасці ў Мінску, інспектарыяльнага дарадцы спецыяльнай акругі Салезіянскай Кангрэгацыі (таксама з сядзібай у Маскве). Акрамя таго, айцец Аляксандр быў членам катэхетычнай камісіі пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Па сённяшні дзень ён з'яўляецца выкладчыкам дагматычнай тэалогіі ў Тэалагічным каледжы Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

### 3. Валоданне мовамі

Біскуп Аляксандр сваёй адукаванасцю толькі падкрэслівае актуальную моўную сітуацыю Касцёла ў Беларусі. Каб плённа працаваць у сучасных беларускіх умовах, святару неабходна валодаць як мінімум трыма мовамі: беларускай, рускай і польскай. Біскуп Аляксандр ведае яшчэ і італьянскую. Гэта, несумненна, дапаможа яму ў наладжванні трывалых кантактаў з каталіцкімі дыяцэзіямі ў свеце.

### 4. Беларускі патрыёт

Падчас сваёй прамовы 9 чэрвеня 2015 года арцыбіскуп Клаўдзіё Гуджэроці, прадстаўляючы прысутным асобу новага біскупа-наміната, падкрэсліў, што асноўнымі задачамі маладога біскупа будуць евангелізацыя і беларускі патрыятызм. Відавочна, што развіваць і падтрымліваць патрыятызм можа толькі той, хто сам з'яўляецца патрыётам роднай зямлі.

### 5. Малады біскуп для моладзі

Асаблівае пакліканне Аляксандра Яшэўскага SDB да супольнасці айцоў-салезіянаў указвае на яго даўнюю прагу працаваць для моладзі. Малады ўзрост біскупа ў гэтым будзе толькі дапамагаць. А вопыт выкладчыка і катэхізатара зробяць яго кіраўнічыя душпастырскія рашэнні карыснымі для Касцёла на ўсёй Магілёўшчыне.

*Падрыхтаваў кс. Віктар Місевіч*

# У Італіі памёр святар, які ўжо смяротна хворы быў пасвечаны па асабістым блаславенні Папы



**Малады італьянскі святар Сальваторэ Мелона (Salvatore Mellone) памёр 29 чэрвеня. Яму заставалася скончыць яшчэ два курсы семінарыі, калі лекары паставілі страшэнны дыягназ: тэрмінальная стадыя раку. І тады Папа Францішак асабіста блаславіў высвяціць семінарыста, які памірае, на святара.**

38-гадоваму а. Сальваторэ было наканавана несці святарскае служэнне ўсяго два з паловай месяцы. Але, нягледзячы на слабасць, ён штодня адпраўляў Імшы, ахрысціў дзіця і суцяшаў іншых пацыентаў анкалагічнага шпіталя, у якім сам знаходзіўся.

За два дні да пасвячэння, што адбылося 16 красавіка, Сальваторэ патэлефанаваў сам Папа. "Першае святарскае блаславенне, якое ты дасі, дай мне, – папрасіў яго Пантыфік. – Сальваторэ, я з табой. Ты будзеш пасвечаны, і ты адправіш Імшу".

Калі яго пасвячалі, а. Мелона сказаў: "Сёння я адчуваю, што мяне нясе на плячах Сам Хрыстос. І як святар я буду насіць на сваіх плячах стулу дзеля выратавання свету. Калі мне ўдасца здзейсніць хаця б адну Эўхарыстыю, гэта будзе для мяне сапраўдным саўдзелам у святарстве Хрыста".

Сведкі расказваюць, што ў гутарках з тымі, хто наведваў яго, святар, які паміраў, увесь час паўтараў: "Быць святаром – цудоўна!"

Адпяванне а. Сальваторэ здзейсніў 30 чэрвеня яго ардынарый – арцыбіскуп горада Трані (вобласць Апулія) Джаванні Батыста Пік'еры.

*Сібірская каталіцкая газета*

# Мусульмане помогли католикам восстановить храм

**Мусульмане из канадского города Миссиссога пожертвовали 5000 долларов на восстановление местной католической церкви после нападения на нее вандалов.**

В течение одной недели на храм святой Екатерины Сиенской было совершено два нападения. В один из вечеров в церковь проник человек, который разорвал находящееся там Священное Писание, разбросал книги и разгромил храм. Спустя несколько дней вандалы облили краской статую Христа, отбили у статуи руки и расписали здание близлежащей школы. Ущерб составил более 10 000 долларов.

Узнав об этих инцидентах, имам местного мусульманского центра Хамид Слими решил помочь католикам. Он пообщался с настоятелем прихода, который показал ему запись с камеры видеонаблюдения. «Это была ужасная сцена. Парень вырвал страницы Библии, сломал алтарь, бросил крест, – сказал имам. – Когда я увидел это, то подумал, что это было совершенно несправедливо. Это было просто неправильно».

Хамид Слими рассказал об увиденном своим прихожанам, и в течение одного дня они собрали 5000 долларов на восстановление католической церкви. «Благотворительность никого не дискриминирует, никого не исключает. Это акт, который будет вознагражден. И не имеет значения, кто является получателем нашего пожертвования», – сказал имам Хамид Слими.

Передавая пожертвования католическому приходу, имам подчеркнул, что его община была рада помочь, и так поступил бы каждый мусульманин. Поблагодарив имама, настоятель церкви о. Камилло Ландо сказал, что это красивый и щедрый жест. «Это также акт доверия и понимания. Мы живем здесь вместе, бок о бок. Сохраняя нашу веру, мы должны чтить и уважать людей других вероисповеданий», – отметил священник.

*gaudete.ru*



# Фэст святых Апосталаў Пятра і Паўла ў Дрысвятах

**Кожны год у канцы чэрвеня на намоленай дрысвяцкай зямлі збіраюцца людзі з усіх суседніх вёсак і госці, каб разам пакланіцца Богу і ўспомніць цяжкі шлях Езуса Хрыста на нашай грэшнай зямлі.**

У апошнюю суботу месяца, а 18-й гадзіне, распачалася Вігілія ўрачыстасці святых Апосталаў Пятра і Паўла. Адбылася святая Імша, а адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту доўжылася да 14 гадзіны ў нядзелю. Вечарам, ноччу, раніцай і днём вернікі маліліся ў касцёле без перапынку. Кожны мог прыйсці і пабыць з Езусам, памаліцца, пагаварыць пра свае набалелыя справы, папрасіць пра штосьці.

А 14-й гадзіне над усім наваколлем пачуўся мілагучны звон. Ён даляцеў да далёкіх вёсачак і хутароў, якія размясціліся на берагах возера Дрысвяты. Гэты звон абвяшчаў пра тое, што ў касцёле пачынаецца вялікае свята і напаўняў людскія сэрцы любоўю да Бога.

У святыні сабралася шмат вернікаў. Дзякуючы паслузе святароў Эдварда Ахрамовіча з Опсы, Андрэя Бочара з Далёкіх, Зянона Шчонхара з Пеліканаў парафіяне змаглі прыступіць да сакраманту споведзі і даручыць свае просьбы і надзеі Езусу Хрысту ў Найсвяцейшым Сакраманце.

Святую Імшу адпраўлялі ксёндз Генадзь і ксёндз Эдвард. Разам з усёй нашай супольнасцю ўдзел у свяце прыняла мама ксяндза Генадзя. Нізкі паклон ёй, што выхавала для нас такога слаўнага сына – святара.

Традыцыйна на заканчэнне набажэнства адбылася ўрачыстая працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам вакол касцёла, падчас якой гучала Літанія да Сэрца Езуса, а потым усе дружна спявалі гімн "Цябе, Бога, праслаўляем".

Але на гэтым свята не завяршылася. Дзякуючы мудраму душпастыру кс. Генадзю было загадзя прадумана, каб вернікі мелі не толькі духоўную ежу, але і маглі пачаставацца шашлыкамі, свежай юшкай і мноствам слодычаў.

Парафіяне ля касцёла змаглі паглядзець выступленне артыстаў мясцовага калектыву "Вярба", паслухаць песні, музыку. Яшчэ больш узняўся святочны настрой. Пачалі танцаваць дзеці, моладзь і нават пажылыя разам з ксяндзом Генадзем.

Бог падараваў чалавеку магчымасць адпачынку. Вельмі добра, калі адпачынак праходзіць у супольнасці, калі чалавек можа сустрэцца з іншым чалавекам і падзяліцца з ім сваёй радасцю. Фэст яшчэ больш згуртаваў вернікаў і наблізіў іх да Бога.

Ксёндз Генадзь з добрай усмешкай хадзіў сярод прысутных, адказваў на пытанні, фатаграфаваўся з ахвотнымі. Напрыканцы ён падзякаваў усім за актыўны ўдзел у святкаванні і дадаў, што заўсёды шчаслівы, калі бачыць сваіх парафіян з'яднанымі на дарозе да Бога, калі наша парафія ўяўляе сабой вялікую сям'ю.

У вызначаны час, амаль апоўначы, на плошчы каля касцёла сабралася шмат парафіян і гасцей і ксёндз Генадзь парадаваў усіх святочным феерверкам. Прысутныя былі задаволеныя, чуліся радасныя воклічы і апладысменты.

Вялікі дзякуй ксяндзу Генадзю за гэты фэст, дзе малітва з адпачынкам былі побач!

*З удзячнасцю, парафіяне парафіі святых Апосталаў Пятра і Паўла (аг. Дрысвяты, Браслаўскі р-н)*

# Як дзяліцца верай



Хвала Хрысту!

Вось толькі што вярнуліся з пілігрымкі, з агульнапарафіяльнага спаткання ў аграгарадку Опса, што на Браслаўшчыне. Гэта мерапрыемства было падрыхтавана і арганізавана кс. Эдвардам (касцёл св. Яна Хрысціцеля). Былі запрошаны пасланцы, адказныя і аніматары суседскіх груп з Пастаў, Далёкіх і Лынтупаў. Тэма спаткання была "Ніхто не можа верыць сам".

Трэба адзначыць, што ўсе ўдзельнікі гэтага спаткання добра падрыхтаваліся. Напачатку была прэзентацыя ўсіх груп, што працуюць у касцёлах па адраджэнні і ўзмацненні евангелістычнай дзейнасці. Прысутныя дзяліліся вопытам сваёй працы ў гэтым накірунку. Потым было абмеркаванне ў групах і прыняцце рашэння па гэтай сапраўды складанай тэме.

Урэшце ўдзельнікі прыйшлі да высновы, што вера – гэта не асабістая справа аднаго чалавека, яна – дабро для ўсіх. Калі не дзяліцца верай з іншымі, яна хутка згіне. "Нельга верыць самому, вера з'яўляецца толькі ў супольнасці і толькі разам мы атрымаем збаўленне", – гаворыць Папа Францішак. Бо і Пан сказаў: "Дзе двое ці трое сабраліся ў імя Маё, там Я ёсць сярод іх".

Таму мы, хрысціяне, павінны распаўсюджваць нашу веру і дзяліцца ёй з кожным паўсюль: у сем'ях, у парафіяльных і дыяцэзіяльных групах. А такія вось сустрэчы вельмі карысныя, бо цікавыя, прыемныя і адказваюць запатрабаванням часу. Усе мы духоўна ўзбагаціліся і атрымалі карысны вопыт, што дазволіць нам больш дасканала працаваць у сваіх супольнасцях.

Шчыры дзякуй усім заангажаваным у гэтым мерапрыемстве! У першую чаргу, нашым святарам: пробашчу Анджэю Возьняку, кс. Эдварду і кс. Андрэю з Далёкіх.

Шчыры дзякуй тым цудоўным і гасцінным людзям, дзе мы начавалі, бо сустрэча доўжылася два дні.

Асабістая падзяка Вікторыі Чаркасавай за праўдзенне спаткання, а кіраўніку прадпрыемства "Маяк Браслаўскі" Раману Іванавічу Шукелю і супрацоўнікам сталовай за цудоўны, смачны абед для нас, пілігрымаў. Хай добры Бог дапамагае ім у жыцці і працы!

*З павагай і ўдзячнасцю,*
*Аліцыя Трафімовіч,*
*фота Эмы Станкевіч*




# Малітва – Божая іскра

**У мястэчку Ёды да Другой сусветнай вайны была капліца Маці Божай Шкаплернай. У вайну капліцу спалілі, а касцёл, яшчэ недабудаваны, новая ўлада разабрала і зрабіла з яго школьны інтэрнат. Вернікам было цяжка пагадзіцца жыць без Божай апекі, людзі верылі ў сілу малітвы да Пана Бога.**

**Галіна Пучынская**, *мястэчка Ёды*

Устрашны час атэізму кожны год 16-га ліпеня ва ўрачыстасць Маці Божай Шкаплернай па даўняй традыцыі пад вялікім сакрэтам ад мясцовых уладаў вернікі збіралі ахвяру і адносілі яе да дзейных касцёлаў з просьбай аб вяртанні нашай святыні і навяртанні няверні каў.

З 1994 года ў нашай капліцы заўсёды адбываецца ўрачыстасць Маці Божай Шкаплернай. Таксама кожную нядзелю і ў святы мы можам бываць на святой Імшы, усхваляць Пана Езуса, Маці Божую за такі цуд, учынены праз малітву тагачасных вернікаў.

Мне вельмі цікава, калі на старонках газеты пішуць аб вяртанні здароўя і вырашэнні іншых жыццёвых цяжкасцей праз малітвы да Пана Бога і Маці Божай.

# "Сем камянёў" – беларускае фэнтэзі




**Зусім нядаўна пабачыла свет першая кніга на беларускай мове ў жанры фэнтэзі – "Сем камянёў" Аляксея Шэіна. Твор ужо набірае папулярнасць сярод беларускіх чытачоў, што само па сабе сведчыць пра добры ўзровень кнігі, аднак, каб, даць ёй належную ацэнку, трэба крыху паглыбіцца ў тэматыку ды даведацца, чым ёсць уласна жанр фэнтэзі.**

**а. Андрэй Буйніч**

## Правіла жанру

Сапраўды, часта фэнтэзі асацыюецца з лёгкай літаратурай, мэта якой – забаўляць чытача. Аднак трэба прыгадаць, што прабацькам гэтага жанру быў Джон Рональд Руэл Толкін, які заклаў у яго пэўныя прынцыпы, што наўмысна альбо несвядома паўтараюць наступнікі пісьменніка.

Паводле Толкіна, тое, што ён рабіў, – гэта распавядаў "казку". Менавіта ў межах такой літаратурнай канцэпцыі працаваў Майстар, патлумачыўшы яе ў сваім эсэ "Аб казках" ды некаторых сваіх лістах. Панацэе субкрэацыі (другастварэння) знаходзіцца ў цэнтры гэтай канцэпцыі. Субкрэацыя, паводле Толкіна, – гэта ўключэнне ў творчую справу Бога. Ён сам акрэслівае сваю міфалогію прыметнікам "другатворчая", бо яна нібы люстэрка (якое акцэнтуе, падкрэслівае пэўную праўду) нашага рэальнага свету, таксама хрысціянскага Аб'яўлення, а перадусім з'яўляецца адлюстраваннем адзінага праўдзівага Міфа, якім ёсць Евангелле.

Варта тут таксама расказаць пра яшчэ адно перакананне Майстра. Ва ўжо згаданым эсэ ён піша: "Гатовы амаль даць рызыкоўнае сцвярджанне, што кожная казка павінна скончыцца шчасліва. Я б акрэсліў трагедыю як самую высокую форму драмы, а яе супрацьлегласць – як сапраўдную форму казкі. Паколькі нам нестае слова, каб акрэсліць гэту супрацьлегласць, то я буду называць яе eukatastrophe [літаральна – „шчаслівы канец"]» .

Аповед, які вядзе да eukatastrophe, ёсць самай дасканалай формай казкі, яе самай высокай формай уплыву" . У „шчаслівым канцы" аўтар эсэ бачыць элемент, які існуе і ў Евангеллі: „У eukatastrophe мы атрымліваем намёк на большы адказ – на далёкі водбліск ці рэха Evangelium у рэальным свеце" . Толкін бачыць Добрую Навіну як праўдзівую казку, у якой народзіны Хрыста – гэта eukatastrophe гісторыі чалавека, а Уваскрасенне – eukatastrophe гісторыі Уцелаўлення .

## Беларуская казка

Аляксей Шэін, які добра знаёмы з творчасцю Толкіна, захоўвае найлепшыя традыцыі Майстра. Ён амаль пазбягае так ненавісных Толкіну алегорый, але ідзе дарогай асацыяцый.

Кніга "Сем камянёў" распавядае пра краіну-выспу Эферыю,якая,паводлетолкінскай канцэпцыі, выступае другатворам ад нашага ўласнага свету. Эферыя – гэта поле, на якім аўтар падкрэслівае і акцэнтуе каштоўнасці, такія блізкія яго сэрцу, каторыя складаюць мэсідж, што ён прагне перадаць чытачу. Сярод гэтых каштоўнасцяў найбольш яскрава бачныя каханне, вера, свабода.

Галоўны герой твора Ясь, паводле законаў жанру, уцягнуты ў прыгоды. Яго місія – адшукаць сем камянёў, якія дапамогуць знайсці Жывую Ваду. Жывая Вада павінна ўратаваць краіну Эферую, што пакутуе пад прыгнётам адмоўнага героя – Вормара. У пошуку Жывой Вады характар галоўнага героя змяняецца, а ён сам мусіць здзейсніць шмат выбараў, каб пазней усвядоміць, кім ён насамрэч ёсць. Ясь здае іспыт сяброўства, робіцца сведкам здрады ды яе наступстваў. Місія Яся становіцца выпрабаваннем яго вернасці і мужнасці.

Ці можна назваць фэнтэзі Аляксея Шэіна хрысціянскім? Сам Толкін пазбягаў гэтага слова ў дачыненні да сваёй творчасці, бо ці ж можна люстра назваць "хрысціянскім" ці "будыйскім"? Люстра – гэта інструмент, які праўдзіва паказвае рэчаіснасць. Гэтак і тут: "Сем камянёў" Шэіна – гэта "люстэрка" беларускай вытворчасці, якое дапамагае нам прыгледзіцца да духоўнай рэчаіснасці і яе законаў, каторыя вакол нас. У хрысціяніна, напрыклад, Жывая Вада з рамана, напэўна, будзе асацыявацца са Словам Божым, з Хрыстом, але гэта не адзінае магчымае прачытанне дадзенага сімвала. Аўтар не змушае да выключна хрысціянскага прачытання сваёй кнігі, і гэта прываблівае чытачоў з розным светапоглядам.

> **"У мяне пасля прачытання "Сямі камянёў" адразу ўзнікла жаданне перачытаць кнігу яшчэ раз"**

З іншага боку, калі б хто-небудзь запытаў, ці мог быць аўтар "Сямі камянёў" не хрысціянінам, то я ўпэўнена адказаў бы – не. Рызыкну сцвердзіць, што такія "люстры" могуць майстраваць толькі тыя, хто асабіста сутыкнуўся з рэчаіснасцю, якую хрысціяне называюць "Боскае Аб'яўленне".

Напрыканцы гэтай кароткай рэцэнзіі я хачу дадаць яшчэ адзін свой уласны крытэрый добрага фэнтэзі. Гэтым крытэрыем з'яўляецца жаданне прачытаць кнігу яшчэ раз. У мяне пасля прачытання "Сямі камянёў" такая патрэба ўзнікла адразу. Я перакананы, што гэтая кніга не будзе ў ліку тых, якія дзеці потым здадуць на макулатуру. Яна дачакаецца яшчэ не аднаго свайго перавыдання. Свой экзэмпляр я захаваю: хто ведае, колькі грошай мне прапануюць праз 20 гадоў за асобнік першага выдання першай кнігі з аўтографам Вялікага Шэіна?



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абавязкова павінен змяшчаць адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Грэка-каталікі ўшанавалі памяць полацкіх пакутнікаў


Пілігрымы дапамагаюць сябру падняцца па лесвіцы да сцен Сафійскага сабора


Малебен каля сцен Сафійскага сабора праводзіць полацкі грэка-каталіцкі святар Аляксандр Шаўцоў

**З гэтай нагоды адбылася пешая пілігрымка з Віцебска ў Полацк. Яна пачалася ад месца, дзе загінуў святы Язафат Кунцэвіч, і закончылася каля сцен Сафійскага сабора, дзе за веру світа рускага цара Пятра І забіла пяць манахаў.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота;* **Леанід Юрык**, *фота*

Як распавёў нам удзельнік пілігрымкі Арцём Калугін з Віцебска, "гэта ўжо 21-ая пілігрымка, мы ідзём тут з Віцебска да полацкай Сафіі, узгадваючы і мучаніцкую смерць Язафата Кунцэвіча, і пяці полацкіх пакутнікаў, якія былі забітыя царскім атачэннем. Самога настаяцеля забіў асабіста Пётр І".

Паводле слоў Арцёма, з Віцебска выйшла 46 пілігрымаў, зараз жа іх каля сотні. Мы сустрэлі пілігрымку перад Полацкам, калі вандроўнікі спыніліся на малітву каля крыжа ў Струнні. Крыж усталяваны на месцы, дзе некалі размяшчалася летняя рэзідэнцыя полацкага арцыбіскупа. Пра гэта нам распавёў краязнаўца Міхась Баўтовіч: "Тут была летняя рэзідэнцыя арцыбіскупаў полацкіх, а з таго часу, калі Кіеў увайшоў у склад Расіі, тут была і рэзідэнцыя грэка-каталіцкага мітрапаліта. Калі ж полацкая Сафія была разбураная падчас выбуху парахавога склада, Струння некалькі дзясяткаў гадоў выконвала ролю асноўнай рэзідэнцыі.

Зараз на гэтым месцы ўжо нічога не засталося, стаіць толькі крыж, які ўсталявалі неабыякавыя вернікі. А некалі па гэтай сцежцы хадзілі і ездзілі святары, пілігрымы, дзяржаўныя людзі".

Мы гутарым з удзельніцай пілігрымкі Ірынай Губскай: "Гэта ўжо ў мяне 24-ы дзень у дарозе. Я адразу пасля пілігрымкі Брэст – Будслаў пайшла сюды. Нішто мяне не прымушае, ёсць такі покліч сэрца – ісці, быць сведкам Хрыста. Гэта магчымасць сустрэцца з сябрамі, сустрэцца з Богам, з сабой – тое, што немагчыма знайсці ў штодзённым жыцці".

Спадарыня Ірына з'яўляецца верніцай-рымакаталічкай. У пілігрымку яна пайшла, каб падтрымаць сяброў па веры. Яна лічыць, што ў Беларусі шмат працы для хрысціян розных канфесій і дзяліцца тут не варта: "У Беларусі ўвогуле хрысціянства варта адраджаць. Я думаю, тут для кожнай царквы хопіць поля для дзейнасці. Як кажуць, працаўнікоў мала, а праца вялікая. Галоўнае, каб было жаданне працаваць, каб былі сілы для гэтага. Мы праходзілі па вёсках з Віцебска да Полацка, і для мяне як ураджэнкі Заходняй Беларусі гэта проста вымерлая зямля. Людзі тут ёсць, але іх мала, і яны пілігрымаў не ўспрымаюць ніяк, абсалютна ніяк".

Наступны прыпынак пілігрымы робяць каля стараабрадскай паморскай царквы ў Полацку. Яе настаяцель Пётр Арлоў – высокі, з сівой барадой, сапраўдны памор – радасна сустракае пілігрымаў. Ён запрашае іх на гарбату ў трапезны храм. Айцу Пятру ўжо за восемдзясят, але, калі назіраеш за тым, як ён імкліва завіхаецца каля гасцей, нізашто не паверыш у яго ўзрост. З карэспандэнтамі ён размаўляць адмаўляецца, таму пра яго гаворыць настаяцель грэка-каталіцкай царквы святой Параскевы айцец Аляксандр Шаўцоў: "Напачатку пілігрымку настаяцель гэтай царквы запрашаў адпачыць, папіць вады толькі побач з царквою, што таксама з'яўляецца знакам адзінства і брацтва з боку стараабрадцаў. Потым стаў пускаць нас на падворак царквы, а зараз увогуле мы цешымся з таго, што нас запрашаюць у трапезны храм, а гэта для старавераў месца вельмі значнае".

Па словах айца Аляксандра, Пётр Арлоў – адзіны, хто прымае ў сваёй царкве грэка-каталіцкіх пілігрымаў. Каля сцен гэтай святыні мы гутарым з Кацярынай, яна з Полацка і ідзе ў пілігрымцы першы раз: "Я пайшла ў пілігрымку першы раз. Нарэшце збылася мая мара, бо раней не атрымлівалася: то вучоба, то праца перашкаджала. Гэта класна, гэта самы лепшы адпачынак, як мне здаецца. І адпачыла, і натхнілася, і новыя знаёмствы з'явіліся!"

Далей пілігрымка ідзе па Полацку да сцен старажытнай Сафіі. Там, пад сценамі храма, адбываецца кароткая малітва ў памяць пра полацкіх пакутнікаў.

Пра свае ўражанні кажа віцяблянін Барыс Хамайда: "Я ўжо трэці раз іду. Першы раз у 2013 годзе, другі – у 2014-м, і вось сёлета ўжо іду ў трэці раз. Я калі іду гэтыя кіламетры, сто ці болей, іду амаль моўчкі, у мяне ў галаве вечнасць, я ні пра што не думаю, я адпачываю. Гэты час, калі я іду, для мяне найлепшы адпачынак. Мне нікуды не хочацца ехаць адпачываць, і я цэлы год чакаю гэту пілігрымку. І ў наступным годзе таксама пайду. Пакуль ногі носяць, буду хадзіць".

Тут жа мы сустрэлі і ветэрана пілігрымак спадарыню Людмілу Пятровіч: "Ініцыятарам гэтых пілігрымак быў святар Валеры Алексяйчук. Цяпер ён уладыка Бэнэдыкт, дапаможны біскуп Львоўскі. Менавіта па яго ініцыятыве мы пачалі хадзіць, каб ушанаваць памяць пяці полацкіх пакутнікаў. Першая пілігрымка налічвала каля дваццаці чалавек. Былі гады, калі было і больш за сто вернікаў. За гэты час на нашым шляху паўсталі новыя касцёлы ў Шуміліне, у Обалі, з'явіліся свае святары, дыяканы... У нас, у Віцебску, напачатку было толькі некалькі вернікаў, а зараз ужо фактычна дзве парафіі".

Спадарыня Людміла выказвае падзяку святарам з Украіны, якія ў свой час дапамаглі адрадзіць у Беларусі Грэка-Каталіцкую царкву.

Святар з Украіны айцец Сцяпан, які служыць у грэка-каталіцкай семінарыі і які прыехаў сюды з двума сваімі студэнтамі, каб яны змаглі пабачыць, як жыве грэка-каталіцкая царква ў суседняй дзяржаве, кажа: "Паколькі мы суседзі, то павінны дапамагаць адно аднаму, і, на маю думку, украінская царква павінна дзяліцца тымі дарамі, якія яна мае, са сваёй сястрой – беларускай царквой. Ад гэтага мы ўсе толькі выйграем: і мы, і беларусы".

Ад Сафіі пілігрымка ідзе да грэка-каталіцкага храма на ўскраіне Полацка, дзе і адбываюцца асноўныя мерапрыемствы. Спачатку вечарам прайшла служба, у якой удзельнічалі пілігрымы. А ўжо назаўтра вернікі святкавалі ўрачыстасць святых Барыса і Глеба. На святкаванне прыехаў і архімандрыт Сяргей Гаек.

Па заканчэнні службы мы гутарым з вернікам грэка-каталіцкай царквы Віктарам Стукавым, які прызнаецца, што да веры прыйшоў праз сваіх дзяцей: "Цяжка было прыйсці, мы ж савецкія людзі, нас так выхоўвалі, што царква – гэта нешта з іншай планеты. Калі пры царкве стварылася нядзельная школа, я спачатку аддаў туды сваіх дзяцей. Калі яны прайшлі катэхізацыю, то сталі задаваць пытанні: а чаму, вы, бацькі, не ходзіце ў царкву? Мы толькі і чакалі гэтага пытання, і адразу пайшлі. Так што мы праз нашых дзетак прыйшлі ў царкву".

Мы спыталі ў айца Змітра з Мінска, ці мае будучыню грэка-каталіцкая царква ў Беларусі? Ён мяркуе, што "перспектыва заўсёды ёсць. Калі ёсць жаданне людзей, ёсць Божая воля, то будзе і перспектыва. Паколькі царква да гэтага часу існуе, нягледзячы на розныя цяжкасці. Калі пачыналася адраджэнне царквы, быў адзін святар, стары, хворы і яшчэ адзін, які перайшоў з рыма-каталіцтва. І гэта была ўся царква. І калі айцец Аляксандр Надсан прыехаў у Беларусь, то ўсё, што ён меў, гэта тых двух святароў. А сёння ёсць 15 зарэгістраваных парафій, яшчэ столькі, якія праходзяць гэты працэс. Вернікаў яшчэ не тысячы, але ўжо сотні ёсць, нараджаюцца дзеці, значыць, царква прабівае сабе шлях у гэтым свеце і ў гэтай краіне".

Што ж, будзем спадзявацца, што ў грэка-каталікоў Беларусі будзе ўсё добра. А вернікаў на заканчэнне свята чакалі смачны абед і канцэрт.



# Гутарка з Майстрам



**З майстрам народных інструментаў Мар'янам Скрамблевічам давялося спаткацца на фэсце ў Быстрыцы з нагоды яе 625-годдзя. Ён ласкава пагадзіўся адказаць на некалькі пытанняў для "Каталіцкага Весніка" падчас сваёй прэзентацыі.**

**– Спадар Мар'ян, ці даўно Вы займаецеся такой нязвыклай дзейнасцю, як выраб народных інструментаў?**

– Гадоў дваццаць ужо, як раблю гэта. Канешне, не ўсё адразу пачало атрымлівацца. Нешта шукаў у кнігах, часам сам эксперыментаваў. Выраб інструментаў – гэта заўсёдны пошук.

**– Ці шмат часу трэба Вам, каб вырабіць нейкі драўляны інструмент?**

– Да дзесяці гадоў трэба сушыць дрэва. І таксама вельмі важна, якой парой яно спілаванае: вясной, летам ці восенню. Гэта ўсё адбіваецца на тэмбры інструмента і на яго якасці ўвогуле.

**– На Вашым століку шмат розных інструментаў: дуды, акарыны, трашчоткі і значную частку сярод іх займаюць інструменты ў выглядзе рыбкі. Гэта для Вас мае нейкае асаблівае значэнне?**

– Мне шмат хто задае такое пытанне: "А чаму менавіта рыба?" Канешне, я б мог і слана з дрэва выразаць ці яшчэ якую жывёлу. А рыбка – гэта ж сімвал хрысціянаў.

**– Вы ў якасці матэрыялу выкарыстоўваеце пераважна дрэва?**

– Так, я з дрэвам вельмі люблю працаваць. Яно дае такі мяккі тэмбр. Ліпа, напрыклад... Яе нічым не заменіш. Але ёсць у мяне і інструменты, выкананыя з рагоў жывёлы. Тут свая цяжкасць у апрацоўцы. Рог трэба вельмі доўга вываруваць у кіпені... А вось, напрыклад, какосавы арэх. Яго гук пры пастукванні вельмі нагадвае цокат коней. Адзін да аднаго пасуе. Пакуль яшчэ маю сілы, то шукаю новыя ідэі.

**– Як Вы шукаеце патрэбны тэмбр для сваіх інструментаў?**

– Ведаеце, я не зусім самавук у музыцы. У мяне грунтоўная тэарэтычная база. Вучыўся ў Вышэйшай прафсаюзнай школе культуры ў Ленінградзе. Таму, калі трэба зрабіць нейкі інструмент, я спачатку вывучаю твор і раблю інструмент спецыяльна пад гэты твор, каб ён пасаваў тэмбрам да музыкі. Крыху дзівілюся з нашых дзяржаўных аркестраў, якія толькі адну дудачку маюць, і гэтага ім хапае. Кожны твор адметны, таму і інструменты павінны быць адметнымі. Звязанымі з мелодыяй, танальнасцю і тэмай твора.



**– У якіх аркестрах іграюць Вашы інструменты?**

– Гучаць па ўсім свеце. У Канадзе, Францыі, Аргенціне, "Белыя Росы" нашы, гродзенскія, іграюць. Ёсць яны і ў Міністэрстве культуры і ў Акадэміі музыкі.

**– Бачна, што Вам вельмі дарагая справа, якую робіце, раз прыехалі ў Быстрыцу аж з Адэльска. Ці маеце вучняў, якія цікавяцца майстэрствам вырабу народных інструментаў?**

– Ахвотных ёсць, толькі справа гэта карпатлівая і няпростая. Інструменты трэба чуць душой, каб яны не проста гралі, а спявалі.

*Гутарыў* ***кс. Віктар Місевіч***
*Фота* ***Марыны Сінкевіч***

### Даведка

***Мар'ян Скрамблевіч – музыкант і майстар па вырабе народных інструментаў. Жыве ў Адэльску Гродзенскай вобласці, дзе стварыў музей народных інструментаў. Экспанаты спадар Мар'ян рэстаўруе або стварае цалкам новыя. Творчасць Мар'яна Скрамблевіча ўнесена ў дзяржаўны спіс гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь.***

# Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк блаславіў абаронцаў Бацькаўшчыны

13 чэрвеня падчас прысягі вайскоўцаў 50-й змешанай авіяцыйнай базы ў Мачулішчах дэлегаваны Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам пробашч Мінскай парафіі Св. Сымона і св. Алены ксёндз-дэкан Уладзіслаў Завальнюк маліўся і блаславіў усіх прысутных.



У сваёй прамове да прызыўнікоў святар падкрэсліў: "Сёння падчас прыняцця прысягі вы ўпершыню адчулі вялікую адказнасць за Бацькаўшчыну перад сваімі блізкімі, перад сваім народам. Вы сапраўды сталі дарослымі. І маё пажаданне, каб гэтая прысяга была складзена вамі не толькі на два гады службы ў арміі, але каб і на ўсё жыццё вы заставаліся вернымі сынамі сваёй Радзімы, бераглі і ахоўвалі сваю зямлю".

*catholic.by*



# Які Ваш вопыт пешага пілігрымавання?

**Лета – найбольш спрыяльны час для пешых паломніцтваў. З году ў год тысячы пілігрымаў ходзяць у святыя месцы, каб духоўна ўзбагаціцца. А які Ваш вопыт пешага пілігрымавання?**

*Ірына Грэйць*



**Вольга Давыдзенка:**
– Мая першая пешая пілігрымка была ў 1996 годзе з Полацка ў Будслаў. Са мною ішлі мая маці, сын, дачка і старэйшая пляменніца. Такім складам мы хадзілі некалькі гадоў. Пасля першага паломніцтва я больш не магла без гэтага жыць. Спачатку быў шлях Полацк – Будслаў (каля 150 км, 5 дзён). Потым дадалася пілігрымка Полацк – Росіца (каля 120 км, 4 дні). Затым Кракаў – Чэнстахова (160 км, 5 дзён), Варшава – Чэнстахова (300 км, 10 дзён), Віцебск – Шуміліна, Глыбокае – Браслаў... Я люблю пілігрымаваць. Адзін год я за лета прайшла больш за 500 км. У мінулым годзе амаль 400.

Але справа не ў гэтым. Я люблю такое адчуванне свабоды ад быту, ад штодзённых клопатаў, люблю адчуваць сябе птушкай, якую корміць Госпад, дае начлег праз клапатлівых сясцёр і святароў. Люблю гэтыя дні пастаяннай малітвы на прыродзе, люблю сустрэчы з рознымі людзьмі. Заўсёды захаплялася тымі, хто браў да сябе на начлег, дзяліўся ўсім тым, што мае. Са многімі падтрымліваю адносіны і люблю іх. Усе мае пілігрымкі – падарункі ад Бога і Марыі. І людзі, якія хадзілі са мною, таксама. Часта я выконвала абавязкі кухара, хацелася быць карыснай. Самая любімая пілігрымка – Полацк – Росіца, бо яна мне бліжэй да сэрца. Я магу сказаць сёння, што за 19 гадоў прайшла больш за 5,5 тыс. км, каб наблізіцца да Госпада і пабудаваць цесныя адносіны з Ім.



**Юлія Іода:**
– Пачала хадзіць у пілігрымкі з 14 гадоў. Ужо была ў шасці вандроўках. Я з Гродзеншчыны, таму штогод хадзіла ў Тракелі. Ліпень, гарачыня, а мы ідзём дарогай, спяваючы песні да Марыі і праслаўляючы Бога. Асабліва ўспамінаю тыя моманты, калі да Тракеляў застаецца 2-3 кіламетры, ты ідзеш ужо крыху стомлены, але радасны ад таго, што амаль дайшоў, нягледзячы на спякоту, на дождж, боль і мазалі. А наперадзе цябе чакае сустрэча і размова з Марыяй. Ёй ты зможаш падзякаваць за тое, што за год адбылося. На жаль, астатнія два гады я вучуся і працую ў Варшаве, таму магчымасці прыехаць і пайсці ў пілігрымку ў Тракелі няма.





**Павел Кузьміцкі:**
– Першы раз я пешшу хадзіў у Будслаў 13 гадоў назад. Адчуванні былі даволі розныя... Я адчуваў сябе вельмі самотна, мне не хапала побач сям'і... Пасля я быў шмат разоў у звычайных, у роварных пілігрымках, у пакутнай. Найбольш блізкай мне была пакутная. У ёй шмат месца для асабістых думак. Але самае галоўнае – няма абмежаванняў, што стварае даволі вольную, нязмушаную атмасферу. Сумую па ёй.

Зараз я больш патрабую цішыні, каб «подыху лёгкім», на прыродзе засяродзіцца на сваіх унутраных перажываннях. Гэта стварае атмасферу Сустрэчы. Але сёння перш за ўсё я бацька 6 дачок. Таму больш за свае перажыванні мяне хвалюе стварэнне адпаведных умоў, пошук такой формы пілігрымкі, якая б пасавала дзецям... Я жадаю ісці толькі з сям'ёй!



**Вольга Цярпента:**
–16 гадоў назад распачаўся мой шлях з пілігрымкай Нарач – Будслаў, і з таго часу кожны год крочу да Маці Божай. Кожная пілігрымка непаўторная і непадобная адна да адной.

У гэтым, 2015 годзе, з Нарачы ішла 20-я, юбілейная пілігрымка да Маці Божай Будслаўскай. Мы крочым 3 дні і праходзім не вельмі шмат кіламетраў – усяго толькі 70. Але гэтыя тры дні – найцудоўнейшыя ў жыцці. Заўсёды ўзрушвае, як па дарозе ў вёсках сустракаюць старэнькія бабулькі, якія ўжо не могуць крочыць з намі. Бачачы пілігрымку, яны становяцца на калені, на іх тварах з'яўляюцца ўсмешкі, а ў вачах – слёзы...

Тры дні шляху – дні малітваў, спеваў, разважанняў над Божым словам, над сваім жыццём, тры дні размоў з сябрамі. Назіраеш за прыгажосцю прыроды: васількі ў жытнёвым полі, спеў птушак, блакіт неба. А як убачыш, яшчэ здалёк, велічны санктуарый, сэрца напаўняецца хваляваннем, бо вельмі хутка прыйдзеш да Маці Божай. Самы цудоўны момант – калі заходзіш у касцёл, падаеш на калені перад абразом Маці Божай і бачыш Яе ўсмешку і вочы, поўныя любові.

Слёзы вырываюцца з вачэй. Тады я дзякую, што магла крочыць гэтай пілігрымкай і дайсці да Любай Маці. Дзякую за Яе апеку і любоў, прашу аб патрэбных ласках і далейшай апецы для родных, сяброў і ўсіх, каго сустрэла па дарозе ў Будслаў і ў сваім жыцці. Я цэлы год жыву гэтай пілігрымкай і мару пра наступную.





**Бр. Ілля Саўчанка МІС:**
– Пілігрымка для мяне – гэта час асаблівай малітвы. Час, калі маеш магчымасць пазнаць сябе і Бога, праходзячы доўгія кіламетры ў спякоце па гарачым асфальце, пад дажджом, у пыле, але перадусім – у малітве. Нягледзячы на стомленасць, ідзеш, праслаўляючы Госпада за "вялікія рэчы" ў сваім жыцці. Недахоп сіл, смага і боль, які адчуваеш, – усё гэта аддаеш Пану. Вельмі важна для мяне мець інтэнцыю ў сваім сэрцы, з якой пройдзеш гэты шлях, бо яна надае сіл у дарозе.

У пілігрымку я хадзіў прыкладна 16 разоў: польская Чэнстахова (1 раз, 9 дзён, каля 200 км), Росіца (7 разоў, самая доўгая пілігрымка – 11 дзён, 336 км), Будслаў (7 разоў, 2 дні, 75км). Я падлічыў, што суцэльны час у дарозе склаў для мяне 67 дзён, за якія было пройдзена 1800 км.

Інтэнцыі, з якімі хадзіў, былі розныя: малітва за распазнанне паклікання, за родных, за сябе самога, за тых, хто прасіў аб малітве. Часам кожны дзень была новая інтэнцыя, а часам усю пілігрымку прысвячаў адной.

Хочацца запрасіць усіх, хто яшчэ не хадзіў у пілігрымку, да адважнага кроку ў гэтым кірунку. Калі ідзеш з Богам, то Ён ніколі цябе не пакіне аднаго на гэтым шляху, а калі сілы скончацца, то Ён сам панясе цябе на руках.

## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Які Ваш вопыт пешага пілігрымавання?**

- Удзельнічаў 4-10 разоў (181 адказ);
- Быў у паломніцтве 1-2 разы (110 адказаў);
- Ніколі не хадзіў у пілігрымкі (92 адказы);
- Хадзіў больш за 10 разоў (58 адказаў);
- Толькі 3 разы (52 адказы);
- Я – «ветэран» пілігрымак, больш за 20 разоў (15 адказаў)

**Усяго адказаў – 508**



# Быстрыца адсвяткавала 625-годдзе свайго існавання

**Калі мы кажам пра ўзрост святынь ці парафій, то стагоддзе здаецца вялікім адрэзкам часу. Перыяд жа ў паўтысячы гадоў – наогул цяжка ўсвядоміць. Але да яго можна дакрануцца і сёння, калі святкуецца юбілей. У Быстрыцы, што ў Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці, нам пашчасціла наталіцца гісторыяй і хрысціянскім духам. Гэты край мы наведалі па ласкавым запрашэнні кс. Казіміра Ляховіча – пробашча мясцовай парафіі – з нагоды 625-годдзя вёскі.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*




Каб узгадніць дзейнасць супрацоўнікаў рэдакцыі "Каталіцкага Весніка", тэлефаную наўпрост ксяндзу Казіміру. На тым канцы провада чуецца прыемны мужчынскі голас з цудоўнай дыкцыяй. "Каталіцкі Веснік"? Газета? Канешне, прыязджайце! І камеры бярыце, усіх супрацоўнікаў. У нас тут вялікі фэст, юбілей парафіі, вёскі, будзе выстава беларускіх народных інструментаў і выступленне трох харавых калектываў".

"Ад такой багатай праграмы ніводзін рэдактар не адмовіцца. Не паехаць туды – гэта грэх", – думаю сам сабе і пагаджаюся на рэпартаж.

## Таямнічая вёска

У вызначаны дзень, 27 чэрвеня, запакоўваем камеры, фотаапараты, мікрафоны і вырушаем у падарожжа. Напярэдадні пошукавы сэрвіс Гугл упарта адмаўляўся падказваць месца знаходжання Быстрыцы. "Што ж гэта за вёска такая, пра якую нават Гугл не ведае?" – думаў я, пераглядаючы іншыя варыянты Быстрыц то з Брэсцкай вобласці, то наогул з Украіны ці Славакіі. Але нас выратаваў GPS у маім тэлефоне, які імгненна праклаў дарогу да мясцовасці каля самай літоўскай мяжы.

Шлях з Глыбокага заняў няпоўныя дзве гадзіны. Апошнія дваццаць хвілін давялося ехаць нібы ў пясчанай буры. "Гравейка" без дажджу разам з цяжкімі МАЗамі, што снуюць паміж блізкай будоўляй атамнай станцыі і кар'ерам, здаецца, ператвараюць звычайную паездку ў прыгодніцкае падарожжа дзе-небудзь на Месяцы.

## Імша на сцэне

Пры ўездзе ў вёску кідаюцца ў вочы рознакаляровыя сцяжкі і надпісы пра юбілей. Ля касцёла збудаваная вялікая сцэна, на якой стаяць алтар, крыж і ўсталяваныя лаўкі для канцэлебры.* З прыпаркаванай машыны дастаём камеры і вітаемся з кс. Казімірам. "Малайцы, што прыехалі! Яшчэ чакаем хор з Мінска – і будзем вітаць біскупа", – кажа пробашч і спяшаецца даць апошнія ўказанні сваім памочнікам-міністрантам.

Урачыстасць святкавання юбілею Быстрыцы ўзначаліў біскуп Казімір Велікаселец, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі. Спецыяльна для гэтага ён прыехаў на паўночны захад Беларусі аж з Гомеля – месца свайго пастаяннага прабывання. Падчас Святой Імшы іерарх удзяліў сакрамант бежмавання больш чым васьмідзесяці маладым вернікам. Напэўна, таму яго казанне гучала як настаўленне моладзі і яе бацькам.

"Памятайце, што Біблія – гэта кніга мудрасці, якая дае адказы на ўсе пытанні. Так сказаў Пушкін. Біблія нам кажа, хто такі Бог. Ён – наш Стваральнік, а мы Яго дзеці. Паміраюць каралі і цары, распадаюцца дзяржавы, а св. Імша адпраўляецца, як і раней, – гэта словы Генрыка Сянкевіча, лаўрэата Нобелеўскай прэміі", – біскуп Велікаселец шчодра перасыпаў казанне цытатамі выбітных пісьменнікаў і навукоўцаў.

## Генерал дэ Голь і Брэжнеў

Пастыр распавёў выпадак з савецкіх часоў, калі ў Крэмль прыляцеў Прэзідэнт Францыі генерал дэ Голь. Паміж кіраўнікамі краін адбылася гутарка. "Леанід Ільіч, я – католік. І мой абавязак у нядзелю быць на службе, а не ў Крамлі. У вас ёсць касцёл?" – спытаў Прэзідэнт Францыі ў Брэжнева. Тады Брэжнеў пытаецца ў сваіх:

– Ёсць у нас касцёл у Маскве?

–Так, так, – адказваюць яму, – але няма ксяндза.

– А што рабіць тады?

– Ну, на самалёт і ў Ленінград. Там ёсць касцёл і ксёндз.

"Калі я быў на рэкалекцыях у Рызе, – працягнуў біскуп, – то бачыўся з гэтым святаром і ён пацвердзіў мне: так, сапраўды, у мяне на Імшы быў сам Прэзідэнт Францыі генерал дэ Голь".

Біскуп Казімір закрануў тэму Эўхарыстыі. Ён нагадаў прысутным, што Цела і Кроў Хрыста даюць чалавеку вялікую сілу. "Хадзіце да споведзі, кожны дзень маліцеся раніцай і вечарам, штонядзелю прыходзьце ў касцёл, кожны месяц спавядайцеся і нікога не бойцеся!" – сказаў біскуп.

## Цвярозасць, малітва і Данбас

Пастыр звярнуў увагу на цвярозасць сярод людзей. "Наша Беларусь! Што робіцца? Дзевяць з паловай мільёнаў жыхароў у нас і больш за мільён алкаголікаў. Чуеце? Як у нашых беларускіх вёсках, гарадках і мястэчках паспойваў д'ябал гэтай няшчаснай беларускай гарэлкай? Бачыце, для чаго нам патрэбная малітва, касцёл і сакраманты?"

Біскуп прыгадаў выказванне аднаго пракурора з Баранавіч, які заўважыў, што, паводле яго назіранняў, сярод вернікаў менш злачынцаў. "Бачыце? Як гэты пракурор, працаўнік юстыцыі, пацвярджае біблейскую праўду: дзе ёсць малітва, там няма граху, дзе няма малітвы, там ёсць грэх".

Іерарх закрануў і тэму Данбаса. "Вось і цяпер на ўсходзе Данбаса ні храма не было, ніякай рэлігіі. Шахцёры працавалі, клуб, кіно, спектакль, забаўляльныя мерапрыемствы, танцы, помнікі Леніну. А крыжы былі? Хрыстос там быў? Малітва была? Не. І вось цяпер глядзіце, што робіцца. Пагэтаму, браты і сёстры, бойцеся толькі аднаго: каб д'ябал вас не адвёў ад Госпада Бога".

Пасля ўдзялення сакраманту бежмавання і св. Імшы ўсе прысутныя памаліліся Літаніяй да Сэрца Езуса і атрымалі ўрачыстае благаслаўленне Найсвяцейшым Сакрамантам. Свята працягнулася выступленнем мастацкіх калектываў. На сцэне перад гледачамі выступілі хор "Голас душы", хор "Czerwone maki", а таксама ансамбль "Тутэйшая шляхта".

## Пробашч пра парафію

Давялося таксама пагутарыць і з пробашчам ксяндзом Казімірам, які знайшоў час на размову, нягледзячы на тое, што ў юбілейны дзень парафіі ў касцёле яшчэ адбыўся шлюб маладой пары. Кс. Казімір падзяліўся сваімі асцярогамі адносна будучыні Быстрыцы. Пачаткі гэтай мясцовасці звязаны з 1390 годам, калі тут быў першы драўляны касцёл, збудаваны Ягайлам. Цягам стагоддзяў парафія развівалася і займела сваю мураваную святыню. Цяперашні выгляд храм набыў 155 гадоў таму. Раней суседнія Міхалішкі былі філіялам Быстрыцкай парафіі, а горада Астравца наогул не было. Толькі цяпер лёс беларускай вёскі агульнавядомы: моладзь з'язджае ў гарады. У Быстрыцы за год адбываецца 10-11 хростаў і 30-33 пахаванні. Што тычыцца планаў, то пробашч Быстрыцкай парафіі марыць пра завяршэнне рамонту касцёла.

На маё пытанне, чаго ж сёння найбольш не хапае беларусам, адказвае: "Веры і чалавечнасці. Хоць мы, канешне, бывае, стогнем, што цяжка, але які-ніякі дабрабыт сёння ёсць у нас. І ён псуе чалавека. Гэты інтэрнэт, іншыя дасягненні цывілізацыі замінаюць людзям быць добрымі, міласэрнымі, звяртаць увагу на іншага чалавека. На жаль, гэта так. Таму неабходная сёння беларусам вера і чалавечнасць. Пра гэта і біскуп Велікаселец казаў моладзі на св. Імшы".

Аднак у будучыню трэба глядзець з аптымізмам. Таму кс. Казімір Ляховіч пажадаў Быстрыцы як мінімум яшчэ 625 гадоў.

*Канцэлебра – сумеснае адпраўленне св. Імшы некалькімі святарамі



# Нябачная барацьба Ларэнца Скуполі,

## або Як каталіцкі манах стаў аўтарам падручніка праваслаўнай пабожнасці




**У Беларусі сярод праваслаўных вернікаў адной з найбольш папулярных духоўных кніг з'яўляецца "Невидимая брань". Гэта кніга стала агульнапрызнаным падручнікам духоўнага жыцця сярод праваслаўных Беларусі, Украіны і Расіі. На вокладцы пазначаны і аўтар – Феафан Затворнік. Аднак мала хто ведае, што гэта не да канца так. Феафан Затворнік ніколі не пісаў гэтай кнігі.**

■ **а. Андрэй Буйніч**

### Падручнік праваслаўнай пабожнасці

Аўтарам падручніка праваслаўнай пабожнасці быў рыма-каталіцкі манах і святар – італьянец Ларэнца Скуполі. Справа ў тым, што гісторыя, звязаная з гэтым творам, мела месца ў часы, калі людзі яшчэ нават не чулі пра плагіят або аўтарскае правы. Вось жа, вялебны а. Скуполі напісаў кнігу "Духоўная барацьба" ("Il combattimento spirituale"), якая была выдадзена ў Венецыі ў 1589 г. Гэты твор, відавочна, спадабаўся грэцкаму праваслаўнаму манаху Нікадзіму Святагорцу, які і пераклаў яго на грэцкую мову. Тлумачэнне Святагорца было вольным, бо аўтар адаптаваў твор да ўсходняй духоўнасці. Нікадзім прыбраў імя аўтара, але ўзгадаў, што кнігу напісаў "пэўны мудры муж".

У Расійскай імперыі некалькі разоў узнікала спроба пазнаёміць рускамоўных чытачоў з "Духоўнай барацьбой". У 1787 г. выходзіць "Брань духоўная" ў перакладзе лекара Івана Андрэеўскага. Аднак пасля выхаду ўсё выданне было канфіскаванае ўладамі. Відавочна, пільная цэнзура пабаялася ўплыву каталіцкай духоўнасці на праваслаўныя розумы. Акрамя гэтага перакладу былі яшчэ два. Хоць ім і больш пашанцавала, чым першаму, але ўсё ж яны не атрымалі вялікай папулярнасці сярод вернікаў.

І вось тут напаткаў гэту кнігу ў грэцкім перакладзе Святагорца праваслаўны біскуп Феафан Затворнік. Яму яна таксама спадабалася. Захапіўся, пачаў перакладаць... Аж раптам ён усвядоміў, што "пэўным мудрым мужам" быў рыма-каталіцкі манах. Гэты факт змусіў Феафана зрабіць рэвізію свайго перакладу: нешта выкінуць, нешта дапісаць. Сам Феафан так абгрунтаваў неабходнасць унясення паправак: "Гэта кніга каталіком напісана, а каталікі аб малітве розуму ды іншых рэчах падзвіжніцкіх інакш, чым мы, мяркуюць. Старац Нікадзім паправіў, але не ўсё. Я скончыў праўку" [Феофан Затворник, свт. Собрание писем. – М., 1900. – Т. 7. С. 192]. Такім чынам у перакладзе Феафана з'явіліся некалькі яго аўтарскіх раздзелаў, у тым ліку пра Езусаву малітву. Пад назвай "Невидимая брань" кніга пабачыла свет у 1888 г. і стала вельмі папулярнай. Але імя Ларэнца Скуполі ў ёй нідзе не ўзгадвалася.

### Ахвяра паклёпу

Ларэнца Скуполі нарадзіўся каля 1530 года ў старажытным горадзе Атранто. Падчас хросту атрымаў імя Францішак. Яму было ўжо 39 гадоў, калі 4 чэрвеня 1569 ён паступіў у Кангрэгацыю тэацінцаў. 25 студзеня 1571 г. Франіцішак склаў вечныя манаскія шлюбы і прыняў імя Ларэнца. У 1574-ым на Божае Нараджэнне ён быў рукапакладзены ў святары.

У 1585 г. распачаўся самы цяжкі перыяд жыцця Ларэнца Скуполі. На агульным сходзе кангрэгацыі, якое праходзіла вясной таго года ў Венецыі, айцу Ларэнца быў вынесены жорсткі прысуд: адзін год турэмнага зняволення, забарона ў святарскім служэнні ды перавод яго ў стан простага манаха.

Многія даследчыкі, якія вывучалі справу Скуполі, мяркуюць, што яго асуджэнне было вынікам хітрага паклёпу. Больш дакладна, на жаль, сказаць цяжка, бо дакументы працэсу паводле звычаяў таго часу былі спалены пасля прысуду. Верагодна, што злачынства Скуполі тычылася парушэння правіла "цэласнасці веры", іншымі словамі, яго абвінавацілі ў ерасі. На працэсе Скуполі паказаў такую вялікую пакору і паслухмянасць, што нават насуперак усім знявагам прыдбаў славу чалавека найвышэйшых цнотаў.

На ўсе абвінавачванні ён адказваў маўчаннем. І хоць знаходзіліся манахі, якія хадайнічалі за яго, сам ён не прыклаў якіх-небудзь высілкаў для таго, каб палегчыць свой лёс. Паводле сведчання субратоў, якія жылі ў адным манастыры са Скуполі, ён выказваў нязменную гатоўнасць выконваць любую, самую простую і самую цяжкую працу па гаспадарцы, любіў адзіноту і цішыню ды шматлікія гадзіны прысвячаў малітве.

У траўні 1588-ым годзе Скуполі пакінуў Геную і накіраваўся ў Венецыю ў тэацінскую манаскую супольнасць. У 1589-ым ён апублікаваў у Венецыі першае выданне "Духоўнай барацьбы". Кніга мела ананімны характар. Толькі пазней яна была апублікаваная пад імем аўтара – Ларэнца Скуполі. Цікавым факт, што ў 1590 г. святы Францішак Сальскі атрымаў ад аднаго тэацінского манаха "Духоўную барацьбу". Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што Францішак Сальскі асабіста быў знаёмы з Ларэнца Скуполі.

Скуполі заставаўся ў Венецыі на працягу дзесяці гадоў. У 1598 годзе пасля 24-гадовай адсутнасці ён вярнуўся ў Неапаль, дзе правёў апошнія гады свайго жыцця. Незадоўга да сваёй смерці, у 1610 годзе, Ларэнца Скуполі быў цалкам рэабілітаваны, таксама з яго была знята забарона святарскага служэння. Памёр ён у Неапалі 28 лістапада 1610 г.

Напрацягу апошніх чатырох стагоддзяў "Духоўная барацьба" ўваходзіла ў лік духоўных твораў, якія атрымалі найбольшае распаўсюджанне ў хрысціянскім свеце. Самы значны поспех кніга мела ў XVII і XVIII стагоддзях. Ужо пры жыцці Скуполі яго праца вытрымала больш за шэсцьдзясят перавыданняў.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Веранiка Абуховіч** *(в. Дунілавічы)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Ганна Івашэнка** *(Астравец)*, **Вольга Парневіч** *(в. Крулеўшчына)*, **сям'я Каптур** *(Браслаў)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Ганна Жылевіч** *(в. Цэнтральная, Іўеўскі р-н)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Зося Калматовіч** *(Варапаева)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*.

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Як павінна быць па-беларуску: У ТРОХ КРОКАХ АД ПРЫПЫНКУ ці ЗА ТРЫ КРОКІ АД ПРЫПЫНКУ?

**Апошнім часам у нашай мове значна пашырылася пры абазначэнні адлегласці да аб'екта выкарыстанне канструкцыі "прыназоўнік *у* + месны склон колькасна-іменнага спалучэння": *у двух кроках ад прыпынку, у дваццаці кіламетрах ад горада, у дзесяці метрах ад дома* і г.д. Але ці не парушаюцца тут правілы будовы словазлучэння? Паспрабуем разабрацца.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Узгаданых канструкцыях рэалізуецца прасторавае значэнне. У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Мінск, 1983) падаецца дзевяць выпадкаў, калі прыназоўнік у адлюстроўвае прасторавыя адносіны (Т. 5, с. 586-587). Але абсалютна лагічна тут не фіксуецца магчымасць яго выкарыстання пры абазначэнні адлегласці да аб'екта. У такіх выпадках варта ўжываць прыназоўнік **за** з колькасна-іменным спалучэннем у вінавальным склоне. Як гэта і рэкамендуе рабіць "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мінск, 1996), дзе чытаем, што прыназоўнік за "ўказвае на адлегласць, у межах якой што-небудзь знаходзіцца: *за дваццаць кіламетраў адгэтуль*" (с. 203).

На жаль, у апошнія гады мы ўсё часцей сутыкаемся з няправільным ужываннем згаданай канструкцыі. Прычым гэта характэрна і для сродкаў масавай інфармацыі. Так, напрыклад, фіксуем: *У выніку буйнога ДТЗ, якое адбылося раніцай12 кастрычніка* ***ў 50 кіламетрах*** *на поўдзень ад Варшавы, загінула 17 чалавек...* (Звязда, 13.10.10); ***Метрах у ста*** *ад берага на крызе памерамі 10 на 15 метраў знаходзяцца тры чалавекі* (Звязда, 29.03.11); *Юнацтва" спынілася* ***ў кроку*** *ад Кантынентальнага кубка* (Звязда, 17.01.12); *У вёсцы Лысая Гара, што* ***ў трыццаці кіламетрах*** *ад Мінска, круглымі суткамі вырабляюць царкоўныя свечкі* (Звязда, 09.02.13); *Цяперашні аэрапорт... знаходзіцца прыблізна* ***ў дзесяці кіламетрах*** *ад горада* (Звязда, 24.06.15). Тут намі прапанаваныя кантэксты з газеты "Звязда" – штодзённага аўтарытэтнага беларускамоўнага дзяржаўнага выдання – за пяць апошніх гадоў. Але адна і тая ж памылка паўтараецца з нумара ў нумар. Прычына, на наш погляд, у тым, што і журналісты, і карэктары знаходзяцца пад уплывам рускамоўных сінтаксічных традыцый, бо падобная канструкцыя акурат дублюе адпаведную рускамоўную. У беларускай мове такі характар будовы дадзенага словазлучэння недапушчальны.

Такім чынам, па-беларуску павінна быць, напрыклад, ***за*** *два крокі ад прыпынку* (а не *ў двух кроках*), ***за*** *дваццаць кіламетраў ад горада* (а не *ў дваццаці кіламетрах*), ***за*** *дзесяць метраў ад дома* (а не *ў дзесяці метрах*).

# Ці лічыцца грахом мяняць веру?



*“Дапамажыце, калі ласка. Мяне ў дзяцінстве хрысцілі па-праваслаўнаму. Але ж мая маці назвала мяне Яніна, і нарадзілася я амаль у дзень святой Яніны. І шмат маіх родных – каталікі, якія жадалі, каб мяне хрысцілі ў касцёле. У свядомым узросце я хадзіла ў касцёл на Імшы, мне там было заўсёды спакойна і камфортна. І зрэдку хаджу цяпер. Стараюся хадзіць па святах. А вось праваслаўную царкву я амаль ніколі не наведвала. Хачу запытацца, ці можна мне прыняць каталіцтва? І калі так, то што мне для гэтага трэба зрабіць? Ці лічыцца гэта грахом – мяняць веру?”*
*Яніна*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Многія людзі, у тым ліку вернікі, пад паняццем “касцёл” разумеюць будынак, дзе звычайна збіраюцца каталікі, каб удзельнічаць у святой Імшы, прымаць сакраманты ды маліцца. Касцёл успрымаецца часам як іерархічная ўстанова, якая мае сваю структуру, законы, уладу, звычаі і г.д. У падобным мысленні ёсць шмат праўды, аднак патрэбна звярнуцца да тэалогіі, каб зразумець рэчаіснасць Касцёла.

Сам Хрыстос заснаваў Касцёл як супольнасць асобаў, пакліканых да збаўлення. Менавіта гэтая супольнасць, якая называецца Містычным Целам Езуса Хрыста, ёсць сакрамантам збаўлення. Святы Апостал Павел вучыць, што Галавою Касцёла з’яўляецца Хрыстос, а мы ўсе – члены Ягонага Цела (пар. 1 Кар 12,12-13,27), з’яднаныя з Ім і паміж сабою моцаю Духа Святога і повяззю любові. У такім разуменні Касцёл – гэта жывы арганізм надпрыроднага характару.

У жыццё Касцёла ўводзіць сакрамант хросту (пар. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, 1267), які можам назваць таксама сакрамантам веры. Найпаўней хрысціянскае жыццё ахрышчаных ажыццяўляецца ў супольнасці Касцёла. Хрост ёсць таксама повяззю адзінства паміж хрысціянамі, паміж тымі, хто верыць у Хрыста, хто прыняў сапраўдны хрост, але не знаходзіцца ў поўнай камуніі з Каталіцкім Касцёлам: “апраўданыя паводле веры праз хрост, яны належаць Хрысту, таму слушна называюць сябе хрысціянамі, а дзеці Каталіцкага Касцёла справядліва лічаць іх братамі ў Пану” (Другі Ватыканскі Сабор, Дэкрэт пра экуменізм Unitatis redintegratio, 3).

Мы верым, што ў Касцёле прысутнічае і дзейнічае Хрыстос, Які абяцаў сваім вучням, што застанецца з намі аж да сканчэння веку (пар. Мц 28, 20). Хрыстова прысутнасць запэўнівае нас у дзейснасці сакрамантаў, а сам Касцёл дзякуючы моцы Духа Святога становіцца паўсюдным сакрамантам збаўлення (пар. Другі Ватыканскі Сабор, Дагматычная канстытуцыя пра Касцёл Lumen gentium, 48).

> **“Калі чалавек знаходзіць любоў, то жыве дзеля яе, а дзе любоў, там няма страху”**

Удзел у жыцці Касцёла – гэта перадусім адказ чалавека на выбар з боку Пана Бога, Які запрашае яго да камуніі з Сабою і абяцае збаўленне. У супольнасці Касцёла сустракаем Бога, Які вызнае нам сваю бясконцую і безумоўную любоў (пар. Ян 13, 1). Хрыстос – гэта крыніца жыцця, якая трывае вечна. Адной з праўдаў нашай веры ёсць пакліканне да Божага Валадарства, каторае развіваецца ў душы хрысціяніна, ды сваю паўнату дасягае пасля завяршэння зямнога жыцця. У Касцёле чалавек чэрпае з крыніцы збаўлення, таму прыналежнасць да яго супольнасці трэба лічыць жыццевызначальным элементам зямнога існавання. Божае Валадарства – гэта скарб, якому варта прысвяціць усё (пар. Мц 13, 44-46).

Калі чалавек адкрывае праўду ў Каталіцкім Касцёле, верыць, што тут сустракае жывога Бога, хоча ўдзельнічаць у яго жыцці і разам з іншымі крочыць дарогаю збаўлення, то ён можа далучыцца да супольнасці з ім. У выпадку, калі чалавек раней не быў вернікам і не ахрышчаны, неабходна прыняць хрост. Хрысціянін-некаталік, які прыняў сапраўдны хрост (напрыклад, у Праваслаўнай Царкве) пасля адпаведнай падрыхтоўкі, пазнання праўдаў веры і прынцыпаў жыцця паводле яе, яднаецца з Касцёлам праз акт вызнання веры.

У Каталіцкім Касцёле існуюць розныя абрадныя традыцыі. Найбольш вядомыя – лацінская (або заходняя) і візантыйская (або ўсходняя). У нашай краіне, напрыклад, дзейнічае Грэка-Каталіцкая Царква, якая захавала ўсходнюю літургічную традыцыю. Вернікі, ахрышчаныя ва ўсходнім абрадзе, захоўваюць яго, калі становяцца чальцамі Каталіцкага Касцёла. Яны могуць, аднак, змяніць таксама і абрад. Гэта магчыма, калі вернік усходняга абраду пры заключэнні сужэнства прагне прыняць абрад сужэнца лацінскага кшталту або пасля атрымання дазволу Апостальскай Сталіцы.

Чалавек, які прагне далучыцца да супольнасці Каталіцкага Касцёла, знойдзе дапамогу і падтрымку ў святароў ці кансэкраваных асобаў (манахінь), якія служаць у дадзенай парафіі. Дапамагчы могуць таксама самі вернікі, асабліва тыя, хто мае духоўны вопыт і адпаведныя веды.

У жывой, актыўнай каталіцкай супольнасці сучасны чалавек можа знайсці спакой, разуменне, успрыманне, можа адчуваць сябе камфортна, аднак найважнейшым з’яўляецца тое, каб ён знайшоў там Бога Адкупіцеля, Які збаўляе. Адкрыццё і сустрэча з жывым, прысутным у Касцёле Хрыстом вядзе да жыцця ласкі, калі ўжо хрысціянін не жыве сваёю моцаю, але моцаю Езуса Хрыста, Які ў ім жыве (пар. Гал 2, 20). Інакш кажучы, калі чалавек знаходзіць любоў, то жыве дзеля яе, а дзе любоў, там няма страху (пар. 1 Ян 4, 18).



## Муж не ходзіць у касцёл. Што рабіць?

*“Мы з мужам каталікі. Ён хрышчаны, але не практыкуе веру. Як прымусіць яго хадзіць у касцёл?”*
*Крысціна*

**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі:**

– Як прымусіць хадзіць у касцёл свайго мужа? Прымусіць... Адабраць свабоду выбару, зрабіць сабе падданым, выхаваць на свой манер – гэта, канешне, абсалютна не адпавядае хрысціянскаму бачанню сужэнства і адносін паміж мужам і жонкай. Выбіраць, хадзіць у касцёл ці не, – свабодная і добраахвотная справа кожнага дарослага чалавека.

Што датычыць веры Вашага мужа, то з пастаўленага пытання вынікае, што ён не хоча верыць слепа. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, апісваючы характарыстыкі веры, зазначае наступнае: “У веры розум і воля чалавека супрацоўнічаюць з Божай ласкай: верыць – гэта справа розуму, які прымае Божую праўду па загадзе волі, каторую пабуджае Бог праз ласку” (ККК, 155). З вышэйсказанага вынікае, між іншым, што “вера хоча зразумець” (ККК, 158): “Я веру, каб зразумець, і разумею, каб лепей верыць” (св. Аўгусцін).

Пераносячыся ў нашы рэаліі, можна, не пабаяўшыся, сцвердзіць, што пасля доўгіх гадоў атэізму ўсё яшчэ існуе вялікі недахоп ведаў на тэму веры ў сучаснага беларускага католіка. Людзі любяць падсумоўваць свае веды пра Бога і Касцёл павярхоўнымі прадпісаннямі рэлігійнасці: трэба хадзіць, трэба пасціць, трэба Божаньку прасіць і г.д. Усё гэта правільна, але чалавек нават падсвядома не можа на гэтым спыніцца, ён шукае глыбіні. Вось чаму так неабходныя наш сістэматычны ўдзел у катэхезе ці самастойнае чытанне рэлігійнай літаратуры.

> **“Адабраць свабоду выбару, зрабіць сабе падданым – гэта, канешне, абсалютна не адпавядае хрысціянскаму бачанню сужэнства і адносін паміж мужам і жонкай”**

Акрамя гэтага, кожны з нас, ахрышчаных, патрабуе ядчэ і сведкаў веры. “Вучыць” верыць можна толькі сведчаннем свайго спаткання з Богам. Таму Вы, хто наведвае касцёл, але мае дома мужа, каторы не практыкуе, пакліканы часта задаваць сабе пытанне: якога Бога я паказваю свайму мужу як жонка? Ці што змянілася ў маім жыцці пасля прыняцця Езуса ў касцёле? Ці маю я асалоду ад спаткання з Найвышэйшым? Ці пазнаю Яго і пра Яго? І так далей.

Напрыканцы заахвочваю Вас да трывалай малітвы ў інтэнцыі навяртання Вашага мужа, бо, каб адказаць Богу на Яго заклік да любові, патрэбна Божая ласка, “якая папярэднічае і ўздзейнічае пры ўнутранай дапамозе Святога Духа, Каторы кранае сэрца і навяртае яго да Бога, расплюшчвае вочы розуму і ўдзяляе асалоду ўсім, хто прымае праўду і верыць у яе” (ККК, 153).

# Ці адносіцца праваслаўная канфесія да Царквы Хрыстовай?

*“Ці належыць праваслаўная канфесія да Царквы Хрыстовай? Як належыць? А то маскоўскія каталікі на сваіх форумах “крычаць”, што не”.*
*Генавэфа*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Дагматычная канстытуцыя II Ватыканскага сабору пра Касцёл «Ad gentes» дае наступнае афіцыйнае вызначэнне, чым ёсць Хрыстовы Касцёл: «Хрыстус, адзіны Пасярэднік, устанавіў і няспынна падтрымлівае тут, на зямлі, свой святы Касцёл, супольнасць веры, надзеі і любові як бачную структуру, пасылаючы праз яго праўду і ласку для ўсіх. Супольнасць, забяспечаная іерархічнымі органамі, і Містычнае цела Хрыста, бачны сход і духоўная супольнасць, зямны Касцёл і Касцёл, надзелены нябеснымі дарамі, не могуць разумецца як дзве асобныя рэчы; наадварот, яны ўтвараюць адну складаную рэчаіснасць, якая вырастае з Боскага і чалавечага элементаў. (...) Гэта і ёсць адзіны Хрыстовы Касцёл, які мы вызнаём у Сімвале веры як адзін, каталіцкі і апостальскі, які наш Збаўца пасля свайго ўваскрасення наказаў пасвіць Пятру (пар. Ян 21, 17), доручаючы яму і іншым Апосталам пашыраць яго і кіраваць ім (пар. Мц 28, 18 наст.), і які ўстанавіў навекі як калону і падмурак праўды (пар. 1 Цім 3, 15).

Гэты Касцёл, заснаваны і ўладкаваны на гэтым свеце як супольнасць, трывае у Каталіцкім Касцёле, кіруюць наступнік Пятра і біскупы, якія застаюцца з ім у супольнасці, хоць па-за яго складам знаходзіцца шмат элементаў асвячэння і праўды, што як уласцівыя дары Хрыстовага Касцёла схіляюць да каталіцкай еднасці».

Гэтую ж праўду паўтарае дэкларацыя Кангрэгацыі дактрыны веры «Dominus Iesus», выдадзеная ў 2000 годзе: «У сувязі з адзінасцю і сусветным характарам збаўчага пасярэдніцтва Езуса Хрыста неабходна цвёрда верыць у праўду каталіцкага веравучэння аб адзінасці заснаванага Ім Касцёла. Паколькі ёсць адзін Хрыстус, то існуе адно цела Хрыста і адна Нявеста Гасподняя: «Адзіны Сусветны і Апостальскі Касцёл». «II Ватыканскі Сабор імкнуўся ўраўнаважыць два верапавучальныя сцвярджэнні: з аднаго боку, што Касцёл Хрыстовы, нягледзячы на падзелы, якія існуюць паміж хрысціянамі, знаходзіцца ў паўнаце толькі ў Каталіцкім Касцёле; з другога боку – тое, што «па-за яго межамі таксама можна сустрэць шмат элементаў асвячэння і праўды» (г.зн. у цэрквах і царкоўных супольнасцях, якія не знаходзяцца ў дасканалай еднасці з Каталіцкім Касцёлам). Існуе толькі адна «субстанцыя» праўдзівага Касцёла, у той час як па-за яго бачнай структурай знаходзяцца толькі яго элементы, якія, будучы элементамі таго ж самага Касцёла, накіраваны і вядуць да Каталіцкага Касцёла». Аднак, прымаючы гэта пад увагу, неабходна сцвярджаць, што «сіла іх выходзіць ад той паўнаты ласкі і праўды, якая нададзена Каталіцкаму Касцёлу».

У іншым дакуменце II Ватыканскага сабору – дэкрэце пра экуменізм «Unitas redintegratio» – адносна непасрэдна праваслаўных цэркваў гаворыцца: «Святы Сабор з радасцю разам з іншымі ўзнёслымі справамі нагадвае, што на Усходзе квітнее шмат асобных, г.зн. мясцовых Касцёлаў, сярод якіх галоўнае месца займаюць патрыярхальныя Касцёлы.

(...) Нельга забываць, што Усходнія Касцёлы ад самага пачатку маюць скарб, з якога многае пазычыў Заходні Касцёл у сферы літургіі, духоўнай традыцыі і юрыдычнага парадку. Нельга таксама недаацэньваць тое, што асноўныя дагматы хрысціянскай веры пра Найсвяцейшую Тройцу і пра Божае Слова, якое прыняло цела з Дзевы Марыі, былі сфармуляваны на Сусветных Саборах, што адбыліся на Усходзе. Гэтыя Касцёлы шмат выцерпелі і надалей церпяць для захавання веры».

Такім чынам, як сцвярджае дэкларацыя «Dominus Iesus», «існуе адзіны Касцёл Хрыстовы, які трывае ў Каталіцкім Касцёле, каторым кіруюць наступнік Пятра і біскупы, што застаюцца з ім у супольнасці. Цэрквы, якія не знаходзяцца ў дасканалым адзінстве з Каталіцкім Касцёлам, застаючыся аб'яднанымі з ім моцнымі сувязямі – апостальскай пераемнасцю і сакрамантам Эўхарыстыі, – з'яўляюцца сапраўднымі памеснымі Касцёламі. Акрамя таго, Касцёл Хрыстовы знаходзіцца і дзейнічае таксама і ў гэтых цэрквах, нават калі ім не хапае поўных зносінаў з Каталіцкім Касцёлам і яны не прымаюць вучэння пра вяршэнства ўлады, якой, па волі Божай, валодае Біскуп Рыма».



# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**26 ліпеня 2015 г. Ян 6, 1-15**

Езус корміць свой народ хлебам. Ён той самы Бог, які ў Старым Запавеце даваў хлеб свайму народу. Ён аб'яўляе знакі сваёй Боскасці. Бог уваходзіць у штодзённыя людскія справы і праяўляе сваю ўсемагутнасць там, дзе чалавек добра ведае сваю абмежаванасць. Накормленыя людзі хацелі зрабіць Езуса сваім каралём, каб Ён стаў часткай іх свету і рабіў для іх гэты свет больш прыемным. Бог стаў чалавекам не для таго, каб стаць каралём гэтага свету, але для таго, каб падняць людзей да годнасці ўдзельнікаў Яго Каралеўства. Таму Езус пазбягае любых уганараванняў на зямлі. Адзінокі, Ён ідзе на гару, туды, дзе звычайна сустракаўся з Айцом на малітве. Бо Каралеўства Яго не з гэтага свету.

*– Ці бачу Божую прысутнасць у маіх штодзённых справах?*

*– Ці дзякую Богу за тыя дары, якімі Ён мяне адарыў?*

*– Ці дзякую за жыццё, за здароўе, розум, ежу, за людзей?*

*– А можа, забываюся, што Ён – пачатак усяго добрага ў маім жыцці?*

*– Ці бачу дзеянне Бога ў маім жыцці?*

*– Ці бачу, што Ён прыйшоў, каб пабудаваць ува мне Сваё Валадарства?*

*– А можа, хачу, каб Ён быў слугой у маім каралеўстве?*

*– Можа, хачу, каб Бог выконваў усе мае загады, каб мне жылося прыемна і шчасліва?*

*– Ці дазваляю Богу рабіць з маім жыццём тое, што Ён хоча, і так, як Ён хоча?*

*– Ці іду за Ім?*

*– Ці не супраціўляюся Яго намаганням падняць мяне да годнасці Божага дзіцяці?*

*– Ці лічу Яго сваім Панам?*

**2 жніўня 2015 г. Ян 6, 24-35**

Людзі, якія слухалі і размаўлялі з Езусам, былі сведкамі цудоўнага размнажэння хлеба. Бачылі таксама, што Езус з'явіўся там, дзе яны былі, невядома як. Аднак не палічылі гэтыя здарэнні Божымі знакамі, дадзенымі ім для ўмацавання веры. Канешне, цудоўныя здарэнні не лічацца сутнасцю дзеяння Езуса, бо Ён не чараўнік, Які робіць фокусы, каб развесяліць або здзівіць. Ён пасланы Айцом. Паверыць у гэта і ёсць сутнасцю веры. А знакі, якія Ён робіць, з'яўляюцца доказам гэтага. Каб верыць, недастаткова стаць сведкам звышнатуральных падзей. Паверыць – гэта прыняць Езуса як Асобу і як Бога, Каторы прыйшоў з неба для майго збаўлення.

*– Ці не бегаю я за духоўнымі сенсацыямі?*

*– Ці сапраўды шукаю Езуса і Яго волі, а не новых эмацыянальных уражанняў?*

*– Ці задумваюся над Божым дзеяннем у маім жыцці?*

*– Ці звяртаюся да Езуса падчас малітвы?*

*– Ці слухаю Яго, разважаючы над Божым Словам?*

*– Ці веру ў Жывога і Асабовага Езуса, прысутнага ў маім жыцці, у Эўхарыстыі, у сакрамантах, у супольнасці Касцёла?*

*– А можа, стаўлюся да веры як да магічнай ідэалогіі?*

*– Можа, не заўважаю Асобы Езуса, а лічу Яго міфічным героем?*

*– Ці веру, што Езус жыве?*

**9 жніўня 2015 г. Ян 6, 41-51**

Езус прыйшоў з неба. Толькі праз Яго мы маем доступ да Бога. Ён Сам Бог, Які прыйшоў да нас. Спажыванне Яго Цела – гэта дарога да неба. Толькі Ён можа даць нам вечнае жыццё ў небе ў еднасці з Ім.

*– Ці цалкам сур'ёзна стаўлюся да Бога ў час малітвы?*

*– Ці разумею, што Езус – гэта мой блізкі Бог? Ён побач са мной, у маім сэрцы, але адначасова Ён – Пан неба і зямлі.*

*– Ці памятаю пра гэта?*

*– Ці з пашанай прымаю Цела Хрыста?*

*– Ці клапачуся, каб прымаць Святую Камунію без смяротнага грэху?*

*– Ці шчыра спавядаюся, каб годна прыняць Цела Хрыста?*

*– Ці разумею, што да Святой Камуніі трэба прыступаць як мага часцей? (Калі ёсць сумненні, ці іду з імі да святара?)*

*– Ці не занядбоўваю прыняцце Святой Камуніі, лічачы гэта няважным?*

*– Ці клапачуся, каб у нядзелю і святы ўдзельнічаць у святой Імшы і прымаць Цела Хрыста?*

**16 жніўня 2015 г. Ян 6, 51-58**

Чарговы раз слухачы затрымліваюцца на літаральным і зямным разуменні слоў Езуса. І гэта перашкаджае ім зразумець сапраўдны сэнс Яго слоў. Езус сапраўды прысутны ў хлебе і віне, якія Святы Дух перамяняе ў Яго Цела і Кроў. Хрысціянін павінен верыць, што Езус прыйшоў ад Бога. Верыць, што Езус – гэта ўцелаўлёны Бог і што Ён сапраўды прысутны пад відам Хлеба і Віна. Спажыванне Цела і Крыві Хрыста вядзе да вечнага жыцця. Ён зрабіў так, што кожны, хто есць Яго Цела і п'е Яго Кроў, у Хрысце ёсць і Хрыстос у ім. Гэта сапраўдная і непаўторная Камунія – з'яднанне Бога і чалавека.

*– Ці не маю схільнасці, каб у пытаннях веры затрымацца толькі на тым, што звонку?*

*– Ці слухаю ўважліва Езуса і ці чую, што Ён мне кажа?*

*– А можа, хачу прымаць толькі некаторыя праўды веры?*

*– Ці веру, што Езус прыйшоў з неба?*

*– Ці веру, што Ён – уцелаўлёны Бог?*

*– Ці веру, што Ён сапраўды прысутны пад відам Хлеба і Віна?*

*– Ці веру, што Ён вядзе мяне да неба?*

*– Ці веру, што Ён ува мне, а я ў Ім, калі прымаю Святую Камунію?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

